10 жніўня 2018 | № 28 (591)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Вайна 8.8.8.
Альтэрнатыўны погляд
Стар. 9








# Рэйдарства ці пачатак прэзідэнцкай кампаніі?

## Улады пачынаюць дзейнічаюць паводле спрагназаванага сцэнару



Сяргей ПУЛЬША

Заўсёды з вялікім задавальненнем назіраў, як працуе карэспандэнтка БелаПАН Таня Каравянкова. Многія фігуранты інтэрв'ю купляліся на яе невялічкі рост і шчырыя вочы «наіўнай дзяўчынкі». І моцна памыляліся, трапіўшы ў пастку «ваўка ад журналістыкі», якому даць адказ нейкімі агульнымі словамі ці сысці ад адказу проста немагчыма. Калі яна ўжо ўчэпіцца ў чалавека, адарвацца магла толькі пасля атрымання адэкватнага і ўцямнага адказу на пытанні.

І гэтага чалавека — выключнага прафесіянала — БелТА абвінаваціла ў несанкцыянаваным доступе ды крадзяжы інфармацыі?

На гэтым тыдні прайшліператрусы ў інфармацыйнай кампаніі БелаПАН і ТАА «Тутбай Медыя». Афіцыйнай падставай стала крымінальная справа па частцы 2 артыкула 349 Крымінальнага кодэкса (несанкцыянаваны доступ да кампутарнай інфармацыі, здзейснены з іншай асабістай зацікаўленасці, які пацягнуў прычыненне істотнай шкоды). Падставай для справы стаў зварот кіраўніцтва дзяржаўнага агенцтва БелТА аб збоях пры доступе да платнай падпіскі паслуг, якія падаваліся названым прадпрыемствам аднаму з яго заказчыкаў.

Як паведаміў СК, да супрацьпраўнай дзейнасці, паводле іх меркавання, датычныя службовыя асобы выдавецкага дома «Беларуская навука», ЗАТ «БелаПАН», ТАА «Тутбай Медыя». Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства затрыманы Марына Золатава, Ганна Калтыгіна, Таццяна Каравянкова.

Канешне, красці інфармацыю — кепска. Але ў мяне, як у чалавека, які 10 гадоў сам адпрацаваў у БелаПАН, вельмі вялікія сумневы наконт таго, што гэтая кампанія ўвогуле мела патрэбу ў «несанкцыянаваным доступе» да БелТА. Аўдыторыя ў гэтых інфармацыйных рэсурсаў даволі розная. Падпісчыкам БелаПАН наўрад ці цікава, колькі тон зерня намалацілі беларускія хлебаробы, альбо дзе Аляксандр Рыгоравіч адкрывае чарговы дзіцячы садок.

Не, Аляксандр Рыгоравіч — гэта, канешне, важна. Але сама БелТА выключна перадае паведамленні прэс-службы Лукашэнкі, якія знаходзяцца ў адкрытым доступе. Таму і красці нічога не трэба. А што можа яшчэ зацікавіць журналістаў БелаПАН у працы БелТА, я нават і не ўяўляю.

Можа быць, «цікаўнасць згубіла котку», і журналісты лазілі пад чужым лагінам на сайт БелТА, каб паглядзець, як справы ў калегаў. Але ў такім выпадку казаць пра «прычыненне істотнай шкоды» і не выпадае.

Прычынаў «наезду» на буйнейшыя недзяржаўныя беларускія інфармацыйныя рэсурсы можа быць некалькі. Першая — меркантыльная. Следчыя ўзяліся за наўпроставых канкурэнтаў афіцыйнага навінавага агенцтва. Падаецца, нехта ўставіў БелТА ўтык за тое, што «галоўнае інфармацыйнае агенцтва краіны» з яго магутнай дзяржаўнай фінансавай і рэсурсавай падтрымкай пляцецца ў хвасце рэйтынгу навінавых рэсурсаў. Напрыклад, паводле дадзеных SimilarWeb за сакавік




2018 года, старонкі Tut.by праглядзелі 114,5 мільёна разоў, а старонкі БелТА — толькі 4 мільёны з хвосцікам. Інтэрнэт-газета БелаПАН Naviny.by набрала тры з паловай мільёны праглядаў (без уліку асноўнага сайту belapan.by).

На адной з вялікіх прэс-канферэнцый, згадваючы БелаПАН, Аляксандр Лукашэнка прамовіў: «Не самае кепскае агенцтва». Увесь калектыў гэтага «не самага кепскага» потым ламаў галовы: а хто ж тады «самы кепскі»? Бо ў Беларусі афіцыйна толькі тры навінавыя кампаніі: БелаПАН, БелТА і расійскі «Інтэрфакс».

Недзяржаўныя СМІ, маючы значна меншыя сродкі і рэсурсы, абмежаваныя ў доступе да афіцыйнай інфармацыі і да «целаў» вышэйшых чыноўнікаў, усё роўна абыходзяць па папулярнасці дзяржаўнае агенцтва. Мажліва, замест таго, каб лепш працаваць, з канкурэнтамі вырашана было разабрацца з дапамогай Следчага камітэту — у лепшых традыцыях рэйдарства. І адначасова запляміць: маўляў, яны такія паспяховыя, бо крадуць інфармацыю ў нас.

Другая прычына — безумоўна, палітычная. Зноў звярнуся да красавіцкага артыкула ў НЧ Міколы Дзядка «Прэзідэнцкія выбары: як гэта будзе». На першае месца сярод фігураў прэсінгу ён ставіў актывістаў, што мы і падкрэслілі ў № 27 за 20 ліпеня. На другім месцы былі незалежныя СМІ, аўдыторыя якіх «блізкая да аўдыторыі дзяржаўных тэлеканалаў, калі не перарасла яе, а гэта — простае і небяспечнае парушэнне манаполіі дзяржавы на інфармацыю». Ці не гэта мы бачым?

Улічваючы знакамітыя словы Ярмошынай пра тое, што нейкія выбары — парламенцкія ці прэзідэнцкія — могуць прайсці ў 2019 годзе, можна лічыць, што ўлады далі старт палітычнай кампаніі. Пытанне толькі, якой.

«Падвесіць» крымінальную справу ў дачыненні да БелаПАН і «Тутбай Медыя» — прасцей простага. Яе можна спыняць, узнаўляць, адкрываць і зноў закрываць, падаўжаць тэрміны расследавання — амаль бясконца. І ўвесь гэты час журналісты будуць «пад каўпаком».

Канешне, ведаючы калег з БелаПАН, наўрад ці заведзеная на іх крымінальная справа спыніць ці замарудзіць іх працу. Хутчэй, яны больш раззлуюцца, і стануць рабіць яе з большым імпэтам.

І наўрад ці наезд на калегаў спыніць распаўсюд непадцэнзурнай інфармацыі ўвогуле. Інтэрнэт ужо не закрыеш.

# На першыя ролі выходзяць сілавікі

**Беларускія ўлады заўсёды змагаліся з незалежнымі СМІ. А калі набліжаюцца выбарчыя кампаніі, улады забываюць пра лібералізацыю і на першае месца выходзяць спецслужбы. Пра гэта і не толькі ў вытрымках з інтэрв'ю Алеся Бяляцкага «Радыё Свабода».**

***— Чым выкліканыя затрыманні журналістаў за «несанкцыянаваны доступ да кампутарнай інфармацыі»? Гэта нейкі асобны выпадак альбо гэта кладзецца ў пэўную агульнапалітычную лінію, каляіну?***

— Мы сутыкаемся з беспрэцэдэнтнымі, арганізаванымі рэпрэсіямі супраць журналістаў, якія працуюць у незалежных СМІ.

Такога не было даўно. Прыходзяць на памяць старыя часы, пераслед рэдактара газеты «Рабочы» Віктара Івашкевіча, пераслед галоўнага рэдактара і супрацоўніка газеты «Пагоня» Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі, якія скончыліся тады рэальнымі судамі і прысудам, абмежаваннем волі. Наступнае, што прыходзіць на памяць, — пераслед газеты «Згода» і зніяволенне журналіста гэтага выдання спадара Сдвіжкова.

Усе гэтыя справы заканчваліся разгромам СМІ і закрыццём гэтых газет і падымалі планку асцярожнасці сярод незалежных журналістаў. Цяпер мы бачым штосьці падобнае — затрымалі тых журналістак, якія пішуць на грамадска-палітычныя тэмы, адсочваюць гэтыя працэсы, даюць нейкі аналіз, бяруць каментары ў палітыкаў, грамадскіх дзеячаў, пішуць на гарачыя тэмы. Можна ўявіць сабе псіхалагічны стан іх і іхніх сваякоў.

Так што я лічу, што гэта разлічаны і спланаваны ўдар па незалежных СМІ і канкрэтных журналістах, якія ў іх працуюць.

***— Вы нагадалі гісторыю, тое, што рэпрэсіі супраць незалежнай прэсы заўсёды былі ўласцівыя ўладам Беларусі. Але ў гэтым працэсе былі нейкія паўзы. А апошнімі днямі мы відавочна бачым абвастрэнне. Чым гэта выклікана?***

— Як мне бачыцца, пачынаецца кананада, падрыхтоўчы этап да дзвюх сур'ёзных палітычных кампаній — парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў, якія адбудуцца ў 2019–2020 годзе. Паводле такой схемы ўлады пераследавалі журналістаў і раней. Узгаданыя выпадкі былі акурат перад выбарамі. Гэта сігналы, якія ўлады дасылаюць перад выбарамі ўсяму незалежнаму грамадству, праз незалежных журналістаў яны спрабуюць абмежаваць інфармацыйнае поле.

Калі надыходзяць выбары, улады забываюць пра лібералізацыю, на першае месца выходзяць спецслужбы. Мне бачыцца тут выразны распрацаваны сцэнар, які выконваецца паводле клішэ спецслужбаў. Артыкул, па якім абвінавачваюць журналістаў, даволі недарэчны — і ён вырашаецца такім чынам, праз масавыяператрусы і канфіскацыю тэхнікі. Плюс іх змяшчэнне пад варту на некалькі дзён, пакуль яны знаходзяцца ў стане падазраваных — гэта беспрэцэдэнтныя крокі маральнага і псіхалагічнага ціску на ўсё журналісцкае асяроддзе.

Гэта частка агульнага плану на абмежаванне грамадскіх і палітычных свабодаў (у прыватнасці, свабоды распаўсюджвання інфармацыю), які беларускія ўлады запусцілі ў дзеянне ў гэты перадвыбарчы этап. Безумоўна, гэтыя дзеянні моцна разыходзяцца з тымі словамі і развагамі, якія мы чуем ад МЗС. На першае месца выходзяць сілавікі. Нічога дзіўнага я ў гэтым не бачу, гэтая карціна паўтараецца кожны раз перад нейкімі сур'ёзнымі кампаніямі ў Беларусі.

***— Суд па справе лідараў прафсаюзу РЭП, якіх абвінавачваюць у няспалаце падаткаў, нагадвае «справу Бяляцкага»?***

— Пэўна, што так. Справы вельмі падобныя ідэалагічна, бо і няўрадавыя арганізацыі, і незалежныя прафсаюзы аднолькава вымушаныя працаваць у вельмі неспрыяльных умовах у Беларусі. Спецслужбы спрабуюць усялякімі незаконнымі метадамі здабыць інфармацыю пра дзейнасць няўрадавых арганізацый, прафсаюзаў, журналістаў і выкарыстаць гэтую інфармацыю для абмежавання нашай актыўнасці.

Галоўнае ў тым, што ўлада ўспрымае грамадзянскую супольнасць як штосьці варожае, штосьці такое, што трэба кантраляваць, інфільтраваць агентамі, ізаляванае ад грамадства. І калі ва ўладаў канчаецца цярпенне, ці калі яны вырашаюць, што для іх ёсць пагроза, — тады наступаюць такія рэпрэсіўныя крокі.

Была спроба звязаць прафсаюзы з дармаедскімі пратэстамі, паказаць, што менавіта яны матор гэтай актыўнасці, — і гэта працоўная іхняя версія, якая, дарэчы, у свой час гучала і ў нашай справе, калі «Вясну» абвінавачвалі ў фінансаванні палітычнай апазіцыі. Яны ўспрынялі незалежныя прафсаюзы як цэнтр дэмакратычнай апазіцыі і вырашылі яго пагасіць. Галоўная мэта гэтай справы — нанесці ўдар па незалежным прафсаюзным руху Беларусі.

А тое, што цяпер адбываецца з журналістамі, — гэта вельмі моцны і вельмі рэзкі, але папераджальны сігнал для ўсёй незалежнай медыяпрасторы пра тое, што «ў нас няма святых кароў». Таму і караюць журналістаў Tut.by, каб усе іншыя разумелі, што яны таксама не абароненыя, што няма незалежных пляцовак, дзе можна пачувацца бяспечна.

# «Справа РЭП» з памылкамі

Сяргей ПУЛЬША

**«Справа прафсаюза РЭП», пэўна, увойдзе ў гісторыю як ці не самая неахайная і брудна злепленая. Зараз усім зразумела, што Генадзя Фядыніча і Ігара Комліка следчым проста «замовілі». А калі працуеш па замове, навошта замарочвацца?**

Відавочна, што доказная база ў следчых вельмі сумнеўная. Асабліва, калі падчас працэсу былая сакратарка прафсаюза прызнаецца, што яна з'яўлялася пазаштатным супрацоўнікам КДБ — прынамсі, атрымлівала адтуль грошы за «агентурную працу». У любым іншым грамадстве гэта быў бы скандал. У адной краіне ён скончыўся нават адстаўкай прэзідэнта — я пра знакаміты «Уотэргейт», калі супрацоўнікі амерыканскіх спецслужбаў паспрабавалі ўсталяваць «праслушку» ў штабе канкурэнтаў прэзідэнта Ніксана.



У нас дзяўчынка Юля ў судзе кажа, што была агентам КДБ у прафсаюзе РЭП. Прысутная на судзе грамадскасць у шоку, а ў суддзі гэта не выклікае пытанняў — нібыта, так і трэба. Пытанняў, наколькі законная дзейнасць КДБ па вярбоўцы супрацоўнікаў незалежнага прафсаюза, не ўзнікае.

Варта зазначыць, што, паводле нашага заканадаўства (калі яго, канешне, выконваць), доказы, сабраныя з парушэннем закона, не маюць аніякай юрыдычнай вагі і не павінны прымацца судом да ўвагі. Але ці высвятлялася, колькі працэнтаў гэтай крымінальнай справы «зроблена» з дапамогай «агента Юлі»? Ці ёсць там такія, сабраныя з парушэннем заканадаўства, доказы? Ці можна давяраць словам Юлі пасля яе прызнання і ці можна браць пад увагу яе паказанні?

Наўрад ці суд зацікавіўся ці зацікавіцца надалей гэтымі пытаннямі. Проста таму, што ўся справа пабудаваная на такіх доказах — доказах, сабраных з парушэннямі заканадаўства. Большая частка сведкаў казалі: следчыя падчас допытаў ціснулі на іх, запужвалі турмою, шантажавалі тым, што да дому яны не вернуцца і будуць сядзець у турме. І людзі ў нервовым стане падпісвалі тое, што трэба следчым. А потым, ачуняўшы і супакоіўшыся, асэнсоўвалі, што нарабілі. І ад папярэдніх паказанняў адмаўляліся (пакуль суды на такую адмову ўвагу звяртаюць — паглядзім, што будзе далей).

Але сапраўдны цырк на дроце здарыўся, калі ў судзе чыталіся матэрыялы праверкі сям'і Комліка. Па-першае, было агучана, што той валодае «аўтамабілем МАЗ». На самай справе, ніякага самазвалу ў Комліка няма, у яго ёсць прычэп МАЗ да легкавіка. Як такія рэчы — аўтамабіль і легкавы прычэп — можна паблытаць?

Па-другое, абвінаваўца зачытала дадзеныя з банка адміністрацыйных правапарушэнняў, згодна з якім Комлік быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці 24 верасня 2017 года. Але ў гэты дзень сам Комлік знаходзіўся пад арыштам у СІЗА! На пытанне падсуднага «што гэта было», абвінаваўца толькі і змагла, што прамовіць: «Не ведаю, хто вашым прозвішчам прадставіўся, гэта ваша справа».

Між іншым, гэта якраз справа следства — высвятляць, дзе быў і што рабіў Комлік. А сам Комлік не павінен даказваць сваю невінаватасць.

І яшчэ прафсаюзнаму актывісту прыпісалі... чужую цешчу! У матэрыялах фігуруе асоба, на 8 гадоў маладзейшая за сапраўдную цешчу Комліка.

Гэткая неахайная справа следчых і дае падставы не тое што меркаваць, а ўпэўнена казаць: «справа прафсаюза РЭП» — замова. Што ўжо на стадыі следчых дзеянняў сілавікі ведалі, чым яна скончыцца ў судзе. А таму асабліва не надавалі ўвагі ані збору сапраўдных доказаў вінаватасці, ані належнаму афармленню матэрыялаў. Яны былі ўпэўненыя, што могуць напісаць у справе любую лухту — і на прысуд гэта аніяк не паўплывае. Усё ўжо вызначана загадзя — дык чаго шчыраваць?

Ці сапраўды гэта так — даведаемся неўзабаве, у час абвяшчэння выраку прафсаюзным актывістам.

# Спыніць вытворчасць і продаж хлеба з назвай «Бульбаш»

Марыя ВЕРАС

**Пад зваротам да кіраўніцтва прадпрыемства ААТ «Слуцкі хлебазавод» спыніць вытворчасць і продаж хлеба з назвай «Бульбаш» падпісаліся 30 чалавек. Пра гэта паведаміла старшыня Слуцкага ТБМ Зінаіда Цімошак.**

Неабыякавыя жыхары Слуцка лічаць, што хлебная прадукцыя з назвай «Бульбаш» утрымлівае зневажальна-абразлівую мянушку беларусаў, зневажае нацыянальны гонар і дадае адценне напаўнавартаснасці беларусам. Случчане лічаць, што беларуская мова вельмі багатая, і з яе назоўнікаў і прыметнікаў можна выбраць шмат іншых назваў, якія б упрыгожвалі хлеб.

— Я мела магчымасць наведаць дырэктара хлебнага завода Чырца Дзмітрыя Дзям'янавіча і паразмаўляць наконт гэтага сумнеўнага хлебнага брэнда, — распавяла Зінаіда Цімошак. — Дырэктар па нацыянальнасці беларус, узначальвае завод толькі другі год. Мне падалося, што ён і сам крыху здзівіўся і задумаўся над гэтай назвай. Будзем спадзявацца, што пасля гэтага звароту адміністрацыя завода задумаецца над праблемай і вырашыць яе на карысць беларусаў.

А вось што наконт назвы хлеба думаюць людзі.

Ірына Паўлючык адпрацавала настаўніцай беларускай мовы ў адной з школ Капыльскага раёна амаль 40 гадоў.

— У слоўніку беларускай мовы ўвогуле адсутнічае такі назоўнік, як «Бульбаш», — гаворыць спадарыня Ірына. — Гэта слова ўжываецца звычайна ў асабістых адносінах з адценнем насмешкі ў дачыненні да людзей, якія ўжываюць шмат бульбы. Мякка кажучы, гэта неафіцыйная мянушка беларусаў. Паколькі слуцкі хлеб да таго ж не выпякаецца з бульбы, такая назва хлеба наўпрост здзіўляе.

Алесь Пашкевіч, першы намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, нарадзіўся на Случчыне:

— І я, і ўсе іншыя творцы Случчыны падтрымліваем зварот жыхароў Слуцка наконт змены назвы хлеба, — распавёў вядомы пісьменнік. — Мы — беларусы, ліцвіны, крывічы... Мы з'явіліся на гэтай зямлі за тысячы гадоў да таго, калі на нашай зямлі пачалі сеяць бульбу. Мы былі да бульбы і будзем пасля бульбы, хай ведаюць пра гэта ўсе, хто хоча абмежаваць нашы памкненні адно толькі бульбай.

Алесь Пашкевіч спадзяецца на патрыятызм і годнасць кіраўнікоў завода ў вырашэнні гэтага пытання з тым, каб «у Слуцку было ўсё па-людску».

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Што ад нас спрабуюць схаваць?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Безумоўна, галоўнай падзеяй тыдня сталіператрусы ў найбуйнейшых беларускіх інфармацыйных цэнтрах — партале TUT.BY і кампаніі БелаПАН. Зразумела, большасць каментатараў у афіцыйную версію — чытанне навінаў БелТА пад чужым паролем — не вераць.**



Фота www.comments.ua

Канешне, адразу ўзнікае шмат версій такіх паводзінаў уладаў. Гэта і эканамічная (выдаленне канкурэнтаў), і палітычная («зачыстка» перад нейкімі значнымі грамадскімі кампаніямі). Але ў любым выпадку «наезд» на прэсу азначае, што ад грамадства імкнуцца нешта схаваць.

Як мяркуе Нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч, схаваць ад нас спрабуюць кепскую эканамічную і палітычную сітуацыю. «Я мяркую, нас чакаюць эканамічныя ўзрушэнні. Гэта адчуваецца, ёсць пэўныя штуршкі. І да таго ж, ускладненне адносін з Расіяй, якая ўсё часцей кажа: мы не будзем вас карміць, а калі і будзем, то вы павінны жыць на нашых умовах. Гэта час ад часу і прарываецца ў Лукашэнкі, калі ён кажа, што мы можам увайсці ў склад іншай дзяржавы», — адзначыла Алексіевіч у інтэрв'ю «Радыё Свабода».

Тое, што эканамічная сітуацыя ў краіне пагоршае, зразумела і з дзеяннияў улады. Напрыклад, Лукашэнку ўжо падалося недастатковым тое, што ён ператварыў краіну ў Лас-Вегас, і сюды прыязджаюць расіяне, каб згуляць у казіно. Сваім указам №305, які ён падпісаў 7 жніўня, у Сінявокай легалізаваныя і арганізацыя і правядзенне азартных гульняў у інтэрнэце з дапамогай віртуальнай гульнявой установы (анлайн-казіно). Адначасова быў падпісаны і ўказ №309, які павялічвае памер прызавога фонду для электронных латарэй да 95% ад агульнага аб'ёму прынятых латарэйных ставак. Тут ужо кажацца не саромеючыся: «Гэтая мера накіравана на... павелічэнне аб'ёмаў рэалізацыі латарэйнай прадукцыі і, як следства, грашовых паступленняў у бюджэт для фінансавання мерапрыемстваў сацыяльнага характару».

То бок, грошай не хапае катастрафічна. А таму беларусаў падсаджваюць на азартныя гульні — каб больш грошыкаў трапляла ў бюджэт.

Такімі тэмпамі неўзабаве спраўдзіцца мара Яраслава Раманчука, які ў адным са сваіх допісаў прапанаваў легалізаваць у Беларусі марыхуану. Бо калі ўжо ісці — дык ісці да канца: дактары кажуць, што гульнявая залежнасць мала чым адрозніваецца ад наркатычнай альбо алкагольнай.

Можа быць, ад нас спрабуюць схаваць і, так бы мовіць, сацыяльныя скандалы. З аднаго боку, той самы Следчы камітэт не знайшоў крыміналу ў гучнай «справе Коржыча»: салдата, якога знайшлі павешаным у падвале вайсковай часткі ў Печах са звязанымі нагамі і майкай на галаве — маўляў, гэта было самазабойства. Хаця і вожыку зразумела, што для самазабойства не трэба ані ногі звязваць, ані майку на галаву нацягваць. З другога боку, скандалы шырацца. На тыдні высветлілася, што прапаршчык адной вайсковай часткі з мінулай восені вынес са складу сорак адзінак зброі — аўтаматы, пісталеты Макарава, гранаты, патроны. Падазраваны нібыта проста клаў аўтамат у заплечнік і праходзіў праз КПП.

Верагодна, улады не вельмі хочуць, каб мы ведалі і пра іх асабістае жыццё. Напрыклад, пра тое, што Марыяна Шчоткіна дабудавала катэдж у Драздах плошчай больш за 400 квадратных метраў. Шчоткіна атрымала ў элітным пасёлку ўчастак 11 сотак з правам пажыццёвага спадчыннага валодання яшчэ ў верасні 2012 года. Тады яна з'яўлялася міністрам працы і сацыяльнай абароны. Нядаўна спартсменка Аляксандра

> **Калі знішчыць айчынныя сродкі масавай інфармацыі (хай і сто разоў «апазіцыйныя»), на іх месца прыйдуць рэсурсы расійскія. І пуцінскім СМІ, наскрозь імперскім, кісларод не перакрыеш**

Герасіменя, якая атрымала зямлю ў Драздах–2 адной з апошніх, распавяла аб механізме: за такія ўчасткі плаціць не трэба ўвогуле нічога, гэта свайго роду падарунак ад дзяржавы. На рынку такі ўчастак без будынкаў каштуе $400–500 тысяч.

То бок, разам з катэджам маемасць Шчоткінай, якая казала, што мужчына павінен «круціцца» на двух-трох працах, і была аўтаркай падатку для беспрацоўных, цягне на такі кошт, што шараговы беларус за жыццё не заробіць.

Значна больш каментатараў звязваюць падзеі вакол БелаПАНу і TUT.BY з нядаўнім злівам расійскага «інсайдэрскага» тэлеграм-канала «Незыгарь» пра мажлівы інсульт у Аляксандра Лукашэнкі. Варта зазначыць, што менавіта інтэрнэт-газета кампаніі БелаПАН Naviny.by дагрукалася да «Незыгаря», аўтары якога казалі: «Нам цікавыя краіны, якія знаходзяцца ў стадыі транзіту ўлады. У Беларусі працэс самабытны і востры. Ёсць запыт на змену ўлады, на абнаўленне. І ёсць махровы архаічны трэнд утрымаць уладу ў сям'і, перадаць свайму вывадку».

Такім чынам, падставай для таго, каб закрыць рот журналістам, можа быць якраз інфармацыя (альбо сцэнары) па «транзіце ўлады». Тыя самыя ўлады ўжо доўга маўчаць наконт раней агучаных і дыскутуемых ідэяў: перанос даты прэзідэнцкіх або парламенцкіх выбараў, магчымы рэферэндуме па змене Канстытуцыі. Чуткі пра інсульт у кіраўніка дзяржавы аўтаматычна цягнуць за сабою пытанні, ці можа ён браць удзел у наступнай прэзідэнцкай кампаніі і хто будзе замест яго. І гэтак далей…

Але пра што розныя аналітыкі папярэджвалі сілавікоў, і на што сілавікі (можа быць, і цалкам свядома) не звяртаюць увагі? Папярэджанні тычыліся якраз разбурэння айчыннай медыяпрасторы. Таго, што «святое месца пустым не бывае», і, калі вынішчыць айчынныя сродкі масавай інфармацыі (хай яны хоць сто разоў «апазіцыйныя»), на іх месца прыйдуць рэсурсы расійскія. Балазе, у нас адзіная моўная прастора, і камунікацыйнага бар'еру не ўзнікае. І вось пуцінскім СМІ, якія наскрозь прасякнутыя імперскасцю, кісларод не перакрыеш. І розныя «Незыгары» атрымаюць поўную свабоду дзеянняў — у тым ліку ў падрыхтоўцы інфармацыйнай вайны, прапагандзе «рускага міру», «ціхай анексіі» Расіяй Беларусі і гэтак далей.

TUT.BY і БелаПАН, як бы яны не мулялі вока ўладзе, усё ж знаходзяцца на праберарускіх пазіцыях у стаўленні да яе дзяржаўнасці. Можна колькі заўгодна казаць пра іх «апазіцыйнасць», але нельга адмовіць, што яны — патрыятычныя ў лепшым сэнсе гэтага слова. І больш за тое — з'яўляюцца важным складнікам інфармацыйнай бяспекі такой дзяржавы, як Рэспубліка Беларусь.

Можа быць, менавіта гэта камусьці не падабаецца?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Ларыса Шчыракова



**Суддзя Буда-Кашалёўскага раёна Канстанцін Скарыны спыніў адміністрацыйную справу супраць гомельскай журналісткі-фрылансера, якая ў траўні зняла відэасюжэт «Бунт даярак» у сельскагаспадарчым прадпрыемстве КСУП «Крыўск».**

У судовай пастанове, якую даслалі журналістцы, гаворыцца, што справа спыненая ў сувязі з заканчэннем двухмесячнага тэрміну, на працягу якога магчыма прыцягваць парушальніка да адказнасці.

Напярэдадні чальцы Гомельскага аддзялення ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» накіравалі калектыўны зварот начальніку Буда-Кашалёўскага райаддзела міліцыі Віталю Падзеруну з патрабаваннем спыніць неабгрунтаванае ўмяшанне супрацоўнікаў міліцыі ў правa журналістаў на свабоднае атрыманне, захоўванне і распаўсюджванне інфармацыі.

Нагодай стаў якраз адміністрацыйны працэс супраць Шчыраковай за «Бунт даярак», у якім распавядалася пра канфлікт вясковых працаўніц з кіраўніцтвам КСУП «Крыўск» Буда-Кашалёўскага раёна на фоне неабгрунтаванага звальнення адной з калегаў.

## Рыгор Кастусёў



**Старшыня Партыі БНФ заявіў, што яго структура спыняе ўдзел у «курапацкай варце».**

Паводле яго меркавання, «курапацкая варта, што няспынна трымаецца актывістамі з пачатку лета, на гэты момант цалкам дасягнула тых мэтаў, якія мы ставілі». «Увага шырокіх колаў беларускай і міжнароднай грамадскасці прыцягнутая да амаральнай ды сумнеўнай, з пункту гледжання нормаў права, дзейнасці ўстановы «Поедем, поедим». Курапацкая варта прымусіла выявіць сваё сапраўднае аблічча і гэтым цалкам здыскрэдытаваць сябе ўласнікаў рэстарацыі, яе наведнікаў», — напісаў Кастусёў у сваёй старонцы на Facebook.

«Курапацкая варта таксама прымусіла дзяржаву прадэманстраваць, што, нягледзячы на ўсе прыгожыя словы ды бутафорскі клопат пра мемарыял, сённяшняя ўлада далёкая ад ідэяў нацыянальнай кансалідацыі, прымірэння ды пакаяння за злачынствы бальшавізму ды сталінізму супраць беларускага народу, але адчувае большы клопат пра схаванне злачынстваў», — зазначае Кастусёў.

«З увагі на тое, што мэты Курапацкай вартай дасягнутыя, і каб не дапускаць правакацыяў ды спекуляцыяў экзальтаваных прыхільнікаў расійскага імперскага рэваншызму, што часам едуць да рэстарацыі выключна дзеля атрымання таннага піяру праз свае канфлікты з нацыянальна-дэмакратычнымі актывістамі, Партыя БНФ ад гэтага дня спыняе блакаванне брамы «Поедем, поедим», — заявіў Кастусёў.

## Ігар Случак



**«Моўны інспектар» сам стаў абвінавачаным у абразе беларускай мовы.**

Супрацоўнік рэчыцкай міліцыі Аляксей Цімошчанка паведаміў Ігару Случаку, што адзін з мясцовых жыхароў угледзеў абразу беларускай мовы ў кліпе, дзе Случак выступае ў якасці акцёра. І напісаў адпаведную заяву ў міліцыю з просьбай прыцягнуць «моўнага інспектара» да адказнасці па артыкуле 9.22 (парушэнне заканадаўства аб мовах).

Гаворка пра відэа на песню «Бацька Ў», што з'явілася на ютуб-канале грамадскай дзеячкі Аліны Нагорнай некалькі месяцаў таму. Нагорная — аўтарка слоў, яна ж і спявае ў ролiку. У кліпе распавядаецца, як Случак, вядомы абаронца беларускай мовы, разбіраецца з тымі, хто яе абражае. Случак выконвае ролю самога сябе, а вось яго апанентаў граюць Станіслаў Шашок і Грыша Ігаркоў — музыкі мінскага гурта «Час Лайна».

У другім куплеце песні «Бацька Ў» рыторыка насамрэч аналагічная той, за якую сам Случак раней прыцягваў іншых да адказнасці. Аднак пры канцы песні пакаранне, прадугледжанае артыкулам 9.22, чароўным чынам беларусізуе героя.

Цяпер міліцыя высвятляе, ці сапраўды ў кліпе была абражаная беларуская мова, ці, наадварот, яе такім чынам абараняюць.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# «Жэстачайшае ўжэстачэнне»

## Загаловак артыкула — гэта не фігура маўлення, а чарговы этап развіцця беларускай мадэлі

**Другая палова 2017 года прайшла ў Беларусі пад знакам разняволення дзелавой ініцыятывы. У поўнай адпаведнасці з даўно ўсталяванай адміністрацыйнай традыцыяй, добрыя намеры былі аформленыя ў выглядзе пакета дакументаў — двух дэкрэтаў і сямі ўказаў адзінага палітыка (АП).**

На двары жнівень. Самы час падвесці першыя вынікі разняволення, але арганізатары кампаніі рабіць гэта не спяшаюцца. Зразумець іх нескладана. Не да таго ім цяпер. Яны занятыя распрацоўкай чарговых дэкрэтаў і ўказаў. Больш адказнай працы ў рамках беларускай мадэлі няма, дый не прадбачыцца. Да яе дапускаюцца толькі высокакваліфікаваныя спецыялісты, адданыя дзяржаве, здольныя на ўзроўні інтуіцыі прадбачыць і апярэджваць чарговыя зігзагі генеральнай лініі. Мінулым яны не жывуць, бо на яго аналіз не застаецца ні часу, ні сіл. Вось і давялося мне ўзяць ініцыятыву ва ўласныя рукі.

Прасцей за ўсё падвесці вынікі з дапамогай пошукавіка «самай саліднай газеты» краіны. Вынікі пошуку адлюстраваны ў табліцы. Яны апынуліся чаканымі. Калі за 2017 год у «Советской Белоруссии» было апублікавана 59 артыкулаў, якія змяшчаюць фразеалагізм «разняволенне дзелавой ініцыятывы», дык за першую палову 2018-га — толькі 7! Прычым, чатыры з сямі — у студзені. Апошні ж раз артыкул з такім папулярным летась фразеалагізмам быў апублікавана 26 красавіка.

Вікіпедыя вызначае моду як сукупнасць звычак, каштоўнасцяў і густаў, прынятых у пэўным асяроддзі ў пэўны час. У канцы мінулага года на верхніх паверхах уладнай вертыкалі ў модзе былі размовы пра разняволенне дзелавой ініцыятывы. Тон, натуральна, задаваў АП. Сваё бачанне праблемы ён, у прыватнасці, выклаў 11 красавіка падчас рабочай паездкі ў Гомельскую вобласць: *«У бліжэйшы час мы прымем рэвалюцыйныя рашэнні па прадпрымальніцтву, бізнесу — па разняволенні бізнесу. <…> Прыйшоў — заяву пакінуў, што хочаш займацца гэтай справай, у падатковай зарэгістраваўся ды пайшоў працаваць. Пажарныя, санстанцыя — усё да мінімуму будзе скарочана».*

Рэвалюцыйныя рашэнні былі прынятыя, а як наконт рэвалюцыйных вынікаў? Колькасць суб'ектаў гаспадарання на 1 ліпеня ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года павялічылася ў Беларусі на 1,6%, а колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў скарацілася на 0,3%. Ці можна такую статыстыку лічыць рэвалюцыйнай? Не ўпэўнены, аднак і адкрыта правальнай назваць яе нельга.

### Святое месца пустым не бывае

«Мода не проста робіць жанчын прыгожымі, яна дае ім упэўненасць у сабе», — сцвярджае французскі мадэльер Іў Сэн-Ларан. А як наконт палітыкаў? Палітыка — царства мужчын, тым не менш прытрымліванне палітычнай моды таксама спрыяе павышэнню ўпэўненасці ў сабе прадстаўнікоў моцнага полу (у выпадку Беларусі гаворку пра палітыка варта весці ў адзіночным ліку).

Выхад з моды публічных разваг на тэму «разняволення дзелавой актыўнасці» — працэс натуральны. Палохацца яго не варта, бо ў палітыцы святое месца пустым не бывае. Але што прыйдзе на змену «разняволенню»? Тут могуць быць розныя варыянты. Не выключана, што падказку мы можам знайсці ў прэс-рэлізе «Нарады па пытаннях сацыяльна-прававых гарантый дзяржслужачых і павышэння прэстыжу дзяржслужбы» ад 26 ліпеня.

Ключавыя словы прэс-рэлізу — назоўнік «ўжэстачэнне» і прыметнік «жэстачайшы». Абмяжуюся адным прыкладам: *«Но люди и общество должны видеть, что президент тем самым предъявляет жесточайшие требования к госслужащим, а за это им полагается это, это и это. За нарушения уходишь с должности, идешь в тюрьму. Люди должны это все понимать. Поэтому сначала требования к госслужащему, которые он должен жесточайшим образом соблюдать и выполнять, а затем коврижки», — сказаў кіраўнік дзяржавы».*

Калі меркаваць па дынаміцы артыкулаў у «Советской Белоруссии», якія змяшчаюць слова «жэстачайшы», слова гэта варта прызнаць неалагізмам, які сігналізуе пра чарговую змену адміністрацыйнага вектара. На працягу шасці гадоў артыкулы з яго згадваннем выходзілі з-пад «залатых пёраў» беларускай журналістыкі ў сярэднім не часцей чым тры разы на год. Мода на жорсткасць (галоўным чынам гаворка ідзе пра «жэстачайшыя» патрабаванні, «жэстачайшую» адказнасць і «жэстачайшы» парадак) стартавала ў 2016 годзе і з таго часу разгортваецца па нарастаючай.

**КОЛЬКАСЦЬ АРТЫКУЛАЎ У «СБ», ЯКІЯ ЗМЯШЧАЮЦЬ ФРАЗЕАЛАГІЗМ «РАЗНЯВОЛЕННЕ ДЗЕЛАВОЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ» І СЛОВА «ЖЭСТАЧАЙШЫ»**

| | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| «Разняволенне дзелавой ініцыятывы» | 3 | 4 | – | 4 | – | – | 14 | 59 | 7 |
| «Жэстачайшы» | 4 | 5 | 3 | 2 | 3 | – | 23 | 45 | 32 |

* Першае паўгоддзе

Як вядома, у схільнасці да навукова-тэарэтычнай рэфлексіі АП яшчэ ні разу абвінавачаны не быў. Усе лёсавызначальныя для краіны і грамадства рашэнні ён прымае «ідучы ад жыцця», пра што сам неаднаразова і заяўляў. Якія ж на гэты раз прычыны прымусілі яго перайсці ад разняволення дзелавой ініцыятывы насельніцтва да ўзмацнення жорсткасці патрабаванняў, што прад'яўляюцца чыноўнікам?




### «Тебя посодют, а ты не воруй!»

Паводле расійскага сацыёлага Вольгі Бяссонавай, існуюць дзве мадэлі правілаў гульні. «Першая — гэта рынак і рынкавая эканоміка. Яе базавыя элементы — гэта прыватная ўласнасць, купля-продаж, прыбытак і прыватная праца. Прыватная праца — гэта праца на прыватнага ўладальніка. У гісторыі гэта быў рабаўладальнік, феадал, капіталіст або прадпрымальнік. Другая сістэма — гэта раздатачная эканоміка. У ёй базавыя адносіны — гэта здача-раздача, уласнасць прадстаўленая як грамадска-службовая, скаргі з'яўляюцца сігналамі зваротнай сувязі, а прыватнай працы з першай мадэлі супрацьпастаўленая службовая праца — гэта значыць, праца на дзяржаву ці на грамадства».

Гэта ідэальныя мадэлі. У прыродзе яны не сустракаюцца. Нават у суперрынкавай амерыканскай эканоміцы значная частка агульнанацыянальнага пірага пераразмяркоўваецца чыноўнікамі праз бюджэт. Тым не менш рынкавае размеркаванне рэсурсаў там дамінуе над раздатачным.

Савецкая мадэль у максімальнай ступені была пабудаваная паводле раздатачнага прынцыпу. Яе рынак функцыянаваў выключна з дадаваннем прыметніка «чорны». Ён паразітаваў на афіцыйным квазірынку і быў яго неад'емным элементам. Такая вось «салодкая парачка»!

Як тут ні прыгадаць героя Андрэя Міронава з кінафільма «Сцеражыся аўтамабіля», які гандляваў з-пад прылаўка імпартнай радыёапаратурай. Знакамітае абвінавачванне цесця: «А ты не крадзі!» варта прызнаць юрыдычна недакладным. Герой Міронава не краў. Ён спекуляваў, што не адмяняла актуальнасці яго бліжэйшай жыццёвай перспектывы — «Тебя посодют».

Перабудова, у тэрміналогіі Бяссонавай, — гэта пераход ад адміністрацыйнай раздачы савецкага ўзору да раздачы ліберальнай. Першае, што пры гэтым кідаецца ў вочы, — гэта пагалоўнае ўкараненне індывідуальных кантрактаў у сферы рэгулявання працоўных адносін. Барацьбу з дармаедамі варта разглядаць у якасці фінальнага акорда на шляху пераходу ад прыватнай працы да службовай.

Службовы кантракт — гэта не прыватны кантракт паміж двума рынкавымі суб'ектамі, дзе яны вызначаюць усе ўмовы самі. Службовы кантракт фіксуе бяспраўнасць прыватнай асобы, а калі апошняя ўсё ж здолее вырвацца з-пад навязаных працоўных адносін, то дзяржава адмаўляецца ад сваіх канстытуцыйных абавязацельстваў перад ёй.

Пераход да ліберальнай раздачы суправаджаўся адмовай ад жорсткага дырэктыўнага планавання зверху, калі кожнаму прадпісвалася, што і як рабіць на сваім працоўным месцы. У выніку самастойнасць ніжніх звёнаў істотна ўзрасла, але пры гэтым адэкватнага зніжэння жадання «паруліць» на верхніх кіраўнічых узроўнях не сфармавалася. «Самая галоўная складанасць гаспадарання, — адзначае Бяссонава, — гэта забяспечыць самастойнасць у рамках адзіных правілаў. Інакш кожны пачынае аптымізаваць лакальна пад сябе».

Гэтую супярэчнасць і спрабуе ліквідаваць АП з дапамогай узмацнення жорсткасці патрабаванняў, што прад'яўляюцца чыноўнікам.

Зноў звернемся да тэксту прэс-рэліза ад 26 ліпеня: *«Кіраўнік дзяржавы звярнуў увагу, што рэалізацыя маштабных праектаў, выкананне тых ці іншых рашэнняў шмат у чым залежыць ад прафесіяналізму кіраўнічых кадраў. Таму гаворку неабходна ў першую чаргу весці аб узмацненні жорсткасці патрабаванняў, якія павінны прад'яўляцца да дзяржаўных служачых».*

Маштабныя праекты ў Беларусі — гэта за рэдкім выключэннем праекты дзяржаўныя. Таму адзіным суб'ектам, які адказвае за іх распрацоўку і рэалізацыю, быў і застаецца чыноўнік. Прыняты ў канцы 2017 года пакет дакументаў, накіраваны на разняволенне дзелавой ініцыятывы, да іх дачынення не мае. Тут іншая логіка — логіка жорсткага кантролю. Але яна адмаўляецца працаваць, калі ад чыноўніка патрабуецца не выканаўчасць, а здольнасць «вызначаць стратэгічныя задачы і правільна ацэньваць наступствы рашэнняў, што прымаюцца».

Да чаго гэта прыводзіць на практыцы, наглядна прадэманстраваў прыклад з беларускай АЭС. Будаўніцтва першага энергаблока выйшла на завяршальную стадыю, а АП, паводле яго ўласнага прызнання, «да гэтага часу выразна ніхто не далажыў, як станцыя будзе ўбудаваная ў эканоміку краіны».



Гульні ў дзіцячым лагеры. Здымак мае ілюстрацыйны характар

Фота www.sb.by

**Рэкардсменам па цэнах для дзяцей, паводле нашых дадзеных, Гомельская вобласць не з'яўляецца. Напрыклад, знаходжанне дзіцяці ў адным з летніх лагераў «з англійскім ухілам» пад Гродна абыдзецца ў 1030 рублёў**

# Недзіцячыя кошты для дзяцей

## Колькі каштуе дзіцячы адпачынак у летніках Гомельшчыны?

Іван ДАБРАХОТАЎ

**Большасць бацькоў хоча, каб новы навучальны год іх дзеці сустрэлі поўнымі сіл. Але ці не час лозунг пра тое, што ўсё лепшае — дзецям, перафразаваць так: «Усё самае дарагое — дзецям»?**

### Лагернае дзяцінства

Лета ў разгары, і хочацца збегчы з задушнага каменнага горада, ці хаця б вывезці дзяцей да рэчкі ці возера, у лес да чыстага паветра. Для гамельчукоў, якія жывуць у постчарнобыльскіх умовах, са скарачэннем зеляніны ў горадзе і з аўтамабільнымі выхлапамі, што павялічыліся ў разы, гэта больш чым актуальна.

Прызнаюся шчыра — у савецкім дзяцінстве я ніводнага разу не быў у піянерскім лагеры. Лета ў «Пунсовых ветразях» або «Лясной казцы» было настолькі штодзённай і руціннай справай, што ніколькі не падавалася прывабным. Вось яшчэ на мора паехаць — так, цікава. А звыклыя для гамяльчан мясціны Клёнкі і Чонкі, дзе было мноства піянерскіх лагераў… Толькі сябры, вяртаючыся дадому пасля аднаго, а то і двух сезонаў, дзяліліся лагернымі ўражаннямі: ці яны дзяўчынак уначы зубной пастай намазалі, ці нейкаму соннаму небараку ўчынілі «ровар» — уставілі вату ў пальцы ног і падпальвалі. Ад чаго ахвяра падлеткавага гумару ў сне адчайна круціла нагамі.

Чонкі ў Гомелі былі папулярным месцам адпачынку ўжо ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя. Заможныя гараджане летам выязджалі сюды на дачы. У 1923 годзе тут быў адкрыты першы санаторый, пачалі арганізоўвацца піянерскія зборы і лагеры. Дзіцячы абласны санаторый «Чонкі» быў адкрыты ў 1946 годзе. У 1947-м — дзіцячы абласны рэўматалагічны санаторый «Чонкі-1».

Амаль кожнае гомельскае прадпрыемства або ведамства мела свой дзіцячы лагер. Нават некаторыя калгасы мелі свае аздараўленчыя «летнікі». Шмат у чым яны былі сканцэнтраваныя ў такіх курортных зонах, як Клёнкі і Чонкі. Піянерскія лагеры і дзіцячыя санаторыі, як правіла, знаходзіліся на балансе прадпрыемстваў. Таму адпачынак або лячэнне дзяцей у іх былі бясплатнымі.

### Ад дзіцячай казкі — да дарослага жыцця

Цяпер многія дзіцячыя лагеры зачыненыя або прададзеныя. Прадпрыемствы, якія знаходзяцца ў крызіснай сітуацыі, паспяшаліся ад іх пазбавіцца. Толькі гіганты рэнтабельнасці, кшталту «Беларуснафты» або Беларускай чыгункі, могуць ва ўмовах рынку дазволіць сабе ўтрыманне дзіцячага лагера. У маляўнічых хваёвых лясах вакол Клёнак раней было мноства піянерскіх лагераў. Сёння ад большасці з іх засталіся толькі руіны, парослыя лесам. Альбо дзіцячыя лагеры перайшлі ў прыватныя рукі. Сярод нешматлікіх устаноў, што захаваліся ў раёне Клёнак, прымае дзяцей рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр «Рамантыка». Ён панейшаму належыць ААТ «Будаўніча-мантажны трэст №27».

Што тычыцца дзіцячых санаторыяў у Чонках, то зараз там устаноў з такім статусам няма. Яшчэ да нядаўняга часу тут дзейнічаў дзіцячы рэабілітацыйны цэнтр «Жывіца». Зараз на яго базе створана дзіцячая бальніца медыцынскай рэабілітацыі. Дзіцячы санаторый «Лясныя далі» ў Новай Гуце ў 2013 годзеператвораны ў аздараўленчы лагер.





Закінутыя піянерскія лагеры ў Клёнках

У тым жа годзе спартыўна-аздараўленчы лагер «Пунсовыя ветразі» і былы піянерскі лагер «Огонек» у Сцюдзёнай Гуце былі прададзеныя праз аўкцыён.

З пяці былых піянерскіх лагераў у раёне Прыбора да 2013 года не працаваў ніводны, чатыры з іх былі разабраныя.

Шэраг дзіцячых лагераў у Чонках змянілі ўласнікаў. Былая «Лясная казка» цяпер называецца «Сожскі бераг» і належыць ужо не «Гомельдрэву», а аддзелу адукацыі. З пасляваенных гадоў пры заводзе «Гомсельмаш» існаваў піянерлагер «Сельмашавец». Відавочна, з-за вядомых праблем да 2017 года ён быў перададзены аддзелу адукацыі, спорту і турызму Гомельскага райвыканкама і перайменаваны ў «Чонкаўскі бор». Гэтаму ж ведамству ад калгасу «Яромінскі» перайшоў і дзіцячы лагер «Каласок».

З 2009 па 2017 год у Гомельскай вобласці было прададзена 17 дзіцячых лагераў. Частка з іх не былі выкарыстаныя ўласнікамі па прызначэнні. Напрыклад, лагер «Спартак» у Петрыкаўскім раёне, набыты фермерам, так і працягваў прыходзіць у запусценне. Ад былога піянерскага лагера «Чайка» ў Клёнках (24 будынкі), прададзенага ААТ «Элегант», засталіся толькі груды цэглы.

Усяго ў Гомельскай вобласці летам 2018 года працавала 11 дзіцячых стацыянарных аздараўленчых лагераў.

### Чонкі супраць Турцыі

Якая ж цана дзіцячага аздараўлення? У лагеры «Сожскі бераг» у Чонках дзіцячы адпачынак абыдзецца бацькам у 430 рублёў. Тры тыдні знаходжання ў лагеры «Лясныя далі» ў Новай Гуце каштуюць 539 рублёў. Пражыванне ў 5-мясцовых пакоях і 5-разавае харчаванне. Але тут адпачываюць у асноўным дзеці чыгуначнікаў. Як і ў старыя часы, Гомельскае аддзяленне БЧ аплачвае да 90 працэнтаў кошту пуцёўкі. Праўда, паводле інфармацыі з неафіцыйных крыніц, кожны год гавораць пра тое, што ад лагера час пазбавіцца.

Прайс у лагеры імя піянера-героя Марата Казея, які належыць РУП «Беларуснафта», у Рэчыцкім раёне ўражвае яшчэ больш. Не менш, чым гаючае паветра хваёвых лясоў і прыгажосць дуброў на Бярэзіне, сярод якіх «Марацік» размешчаны. Кошт 21 дня знаходжання дзіцяці тут ацэньваюць да 860 рублёў. Пры гэтым дзецям работнікаў даецца датацыя — каля 185 рублёў. Зрэшты, кажуць, што нашы нафтавікі зарабляюць нядрэнна.

Акрамя таго ў гэтым сезоне ў Гомельскай вобласці разгорнутыя 760 нестацыянарных лагераў. Гэта — дзённыя дзіцячыя лагеры пры школах, палатачныя лагеры, і гэтак далей. Школьныя лагеры, як правіла, таксама платныя. Хоць расцэнкі там больш сціплыя, чым у стацыянарах.

Праблемай дзіцячага адпачынку ў нас займаецца спецыялізаваная структура — Рэспубліканскі цэнтр па аздараўленні і яго рэгіянальныя ўпраўленні.

Будзем аб'ектыўныя: раз на год дзіця ў Беларусі яшчэ мае права на бясплатнае аздараўленне. Але трапіць на яго ў летні час не так проста. Найперш трэба звяртацца па месцы вучобы дзіцяці. А, напрыклад, у СШ №59 у ліпені было толькі 27 месцаў (плюс 2) на выезд у лагер «Лясная паляна». Наступны заезд на аздараўленне будзе толькі ў верасні.

Як паведамілі ў Гомельскім абласным упраўленні Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні, у іншых выпадках трэба пісаць заявы ў камісію аздараўлення па месцы працы бацькоў. Калі ў прадпрыемства ёсць вылучаныя на аздараўленне дзяцей сродкі, вядома. Гэтак жа права на прэферэнцыі і частковую аплату кошту дзіцячага аздараўлення з дзяржаўных сродкаў маюць сіроты, дзеці некаторых катэгорый наёмных работнікаў, служачых сілавых структур і гэтак далей. Тэарэтычна, на дапамогу могуць разлічваць нават дзеці афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных.

Пры гэтым рэкардсменам па цэнах для дзяцей, паводле нашых дадзеных, Гомельская вобласць не з'яўляецца. Напрыклад, знаходжанне дзіцяці ў адным з летніх лагераў «з англійскім ухілам» пад Гродна абыдзецца ў 1030 рублёў.

Пра якасць сэрвісу ў нашых дзіцячых лагерах казаць няпроста. Каментары на прысвечаных гэтаму форумах бываюць самыя розныя: ад «вельмі сумна», «дрэннае харчаванне», «ніякія выхавальнікі» — да захопленых. Ацэнкі бацькоў — рэч вельмі суб'ектыўная. Але ў любым выпадку, пры ўсёй магчымай мадэрнізацыі, большасць санаторыяў і лагераў пабудаваныя ў нас яшчэ ў часы СССР або неўзабаве пасля яго распаду.

У туры ў Турцыю на сям'ю з 3-х чалавек у раён Анталіі, з вылетам з Гомеля, гатэль «4 зоркі, усё ўключана», на верасень, пры раннім браніраванні, доля дзіцячага кошту была роўная прыкладна 350 доларам.

З улікам таго, што цана адпачынку дзіцяці ў летнім лагеры ў нас можа складаць ад 250 да 500 долараў, высновы кожны можа зрабіць сам.

# Пры «ўладзе сілы» ніколі

## Гістарычныя рэфлексіі пра беларускую ўладу



Тацццяна ПРОЦЬКА

**Калі перакласці з лацінскай слова «рэфлексія», то атрымаецца нешта кшталту «зварот назад», асэнсаванне папярэдняга вопыту. Гістарычная рэфлексія — асэнсаванне гістарычнага вопыту народа, неабходная частка ягонага паспяховага развіцця.**



Фота www.svaboda.org

Еўрапейскія народы гістарычную рэфлексію ўключаюць у сваё сучаснае жыццё, на яе падставе фармуюць сваю будучыню. Яскравы прыклад паспяховасці такой працы — асэнсаванне нямецкім народам фашысцкага мінулага, ачышчэнне ад яго. Беларускі народ гістарычнай рэфлексіяй не займаецца, савецкае мінулае паспяхова існуе ў сучасным беларускім жыцці ў выглядзе помнікаў, назваў вуліц, святкавання юбілеяў асобаў і падзей. Больш за тое, робіцца ўсё неабходнае, каб савецкае мінулае стала неад'емнай часткай беларускай будучыні. Калі спаўзанне ў мінулае стала такім заўважным і масавым, я пачала думаць — чаму гэта адбываецца і прымаецца, падтрымліваецца беларусамі? Вынікі маіх развагаў — уласнай гістарычнай рэфлексіі — я прапаную ў серыі артыкулаў.

### Феномен улады

У жыцці цывілізаванага чалавека (не толькі беларуса) улада займае першаснае месца. Яна — галоўны рухавік як калектыўнага (дзяржава, прадпрыемства, горад і іншыя формы), так і індывідуальнага жыцця. Не зразумеўшы, што ёсць улада, нельга палепшыць ні жыццё, ні саму ўладу. А без гэтага прагрэсу не дачакацца.

У выніку камуністычных філасофска-ідэалагічных распрацовак, іх укаранення ў грамадскую свядомасць у часы БССР, а таксама дзякуючы рэаліям беларускага савецкага жыцця, у сучасных беларускіх людзей выпрацавалася своеасаблівае стаўленне да ўлады: беларусы адначасова любяць уладу і ненавідзяць яе, паважаюць і зневажаюць, баяцца і прагнуць — «улада — наша ўсё». І гэта тычыцца не толькі дзяржаўнай улады. Беларусы адначасова хочуць мець моцнага лідара — і як мага больш абмежаваць магчымасці лідарскую моц праяўляць. Але найбольш папулярнай з'яўляецца думка — з уладай лепш не звязвацца. Назавем гэтую з'яву беларускім феноменам улады.

Феномен па вызначэнні — незвычайная з'ява, рэдкі факт, тое, што цяжка зразумець. Але паспрабуем прааналізаваць, што ёсць у нашым сучасным жыцці ўлада, з якімі яе формамі мы сутыкаемся найчасцей, як уладу (у любых яе формах і праявах) выкарыстаць на асабістую і грамадскую карысць.

### Асабісты і грамадскі ўзровень

У беларускім феномене ўлады можна вызначыць два ўзроўні — асабісты і грамадскі.

Асабісты ўзровень беларускага феномена ўлады заснаваны на «ўладзе сілы». Пад сілай людзі разумеюць усё, што можа паўплываць і змяніць іх жыццё. Па вызначэнні, гэта таксама і ўлада. Для беларуса «ўлада сілы» і «сіла ўлады» —панцці амаль тоесныя. На асабістым узроўні звычайны беларус карыстаецца выказваннем: у каго ўлада — той заўсёды мае рацыю, у каго сіла — у таго і ўлада. Для чалавека, які жыве з вынікаў сваёй працы, галоўная ўлада — яго начальнік на працы. Ёсць яшчэ шэраг розных «уладаў» — у сям'і жонкі ці мужа, суседская асяроддзя, грамадскай думкі, Царквы ў асобе святара і інш. І кожны з носьбітаў улады адначасова ўплывае на погляды асобы, яе дзеянні, фарміруе погляды на тое, што ёсць праўда. Пры гэтым звяртаецца больш увагі на негатыўныя асаблівасці сілы.

Другой адметнай рысай асабістага ўзроўню беларускага феномена ўлады з'яўляецца непрыцільнае ўладзе. Любой, у любым яе выглядзе.

Асабістае чалавечае жыццё падпарадкаванае дзяржаўнай уладзе, залежыць ад яе. Людзі сучаснай еўрапейскай цывілізацыі лічаць неабходным удзельнічаць у фармаванні дзяржаўнай улады, стварацы яе на сваю карысць. Пры гэтым дзяржаўная ўлада — толькі добры дапаможнік чалавеку ў вырашэнні яго праблем. Беларус лічыць па-іншаму: асабістыя жыццёвыя мэты (у тым ліку дабрабыт, поспех, кар'ера) можна дасягнуць толькі праз уладу ці з дапамогай улады. Уласныя намаганні па дасягненні жыццёвых мэтаў другасныя і павінны быць выкарыстаны, у першую чаргу, для пошуку найбольш эфектыўных для канкрэтнай асобы форм дапамогі ад улады.

Ёсць яшчэ адно вельмі распаўсюджанае і папулярнае меркаванне. «Дзяржаўная ўлада абавязаная мне дапамагаць у ажыццяўленні маіх жыццёвых мэтаў» — такое перакананне мае значная колькасць беларускіх людзей. На ўзроўні грамадства такія асабістыя ўспрыняцці трансфармуюцца ў простую формулу: без дапамогі (умяшання) дзяржавы нельга вырашыць ніякага пытання грамадскага развіцця, дзяржаўная ўлада абавязаная вырашаць пытанні на карысць грамадства — якасна і тэрмінова.

### Ён адказны за ўсё

Ва ўяўленнях беларуса пра ўладу асобае месца належыць прэзідэнту. Калісьці папулярнай была дзіцячая песенька: «Папа может, папа может всё, что угодно». Адна частка беларусаў лічыць, што кіраўнік дзяржавы, як тата, можа вырашыць усе праблемы, ён любіць цябе, ён добры. Толькі трэба да яго звярнуцца, дагрукацца. Ён — сіла, здольная вырашыць усе пытанні. Другая частка, наадварот, лічыць яго чыннікам усіх хібаў беларускага жыцця. Гэта тое ж самае ўспрыняцце вобразу кіраўніка краіны, што і ў першай частцы, толькі са знакам «мінус». Апошнюю частку называюць апазіцыяй. Для амаль усіх беларускіх людзей дзяржаўная ўлада персаніфікаваная ў асобе прэзідэнта.

Трэба заўважыць, што пакуль пытанняў было няшмат і яны былі простыя, беларускія ўлады, з дапамогай кіраўніка дзяржавы ці без яе, іх вырашалі. Развіццё цывілізацыі ўскладніла пытанні, і ўлада перастала задавальняць людзей — як на асабістым узроўні, так і на ўзроўні грамадства. Незадаволенасць няздольнасцю ўлады вырашаць пытанні грамадскага і асабістага жыцця чалавека на ўзроўні магчымасцяў сучаснай цывілізацыі выклікала розныя да ўлады адносіны. З аднаго боку, людзі працягваюць любіць уладу і маюць надзею, што яна здольная выправіць становішча, з іншага — яны ўсё часцей страчваюць надзею на ўладу і пачынаюць яе ненавідзець. Але гэтая незадаволенасць пакуль рознанакіраваная, не мае абагульняючай ні сілы, ні ідэі.

Заўважу, што нянавісць падсілкоўваецца яшчэ і тым, што за доўгія гады беларуская ўлада адвучыла людзей ад самастойнасці, ад уласнай адказнасці за асабістае жыццё і жыццё сваіх родных. Людзі адвучыліся вырашаць свае пытанні самі, і калі пытанні не вырашаюцца, яны шукаюць ворагаў сярод тых, хто ўвасабляе ўладу. Раней ці пазней, нянавісць пераходзіць на кіраўнікоў дзяржаўнай улады.

Важным складнікам беларускага феномена ўлады на грамадскім узроўні з'яўляецца тое, што і па форме, і па сутнасці яна ёсць улада савецкая. З моманту свайго нараджэння і да сённяшніх дзён — хоць і з невялікімі зменамі і дадаткамі.

### Савецкая «ўлада сілы»

Савецкая сістэма кіравання ад пачатку была заснаваная на ўладзе сілы. «Улада сілы», па вызначэнні, — гэта калі ўлада дамагаецца падпарадкавання з дапамогай гвалту, жорстка і непасрэдна, без дадатковых дзеянняў у выглядзе доўгіх судовых працэсаў, расследаванняў і гэтак далей — ёй проста няма справы да жаданняў ці нежаданняў людзей. Крайняй формай выразу «ўлады сілы» з'яўляецца вядомае выказванне: «Няма чалавека — няма праблемы».

Савецкая «ўлада сілы» нават мела назву — «дыктатура пралетарыяту». Такая назва была выбраная невыпадкова. Слова «дыктатура» прадугледжвае бясспрэчнае выкананне загадаў, беспярэчнае падпарадкаванне. Але, каб вымусіць людзей свядома падпарадкоўвацца, да адмоўнага па сваім значэнне слова быў дададзены пазітыўны складнік — пралетарыят. Пралетарыят у свядомасці савецкіх людзей — гэта абавязкова працуючая на вытворчасці ці ў сельскай гаспадарцы частка насельніцтва, якая не валодала асабістай маёмасцю. Публічны вобраз савецкай «улады сілы», які спачатку пачалі стварацць заснавальнікі савецкай улады — гэта дыктатура тых, хто выконвае ўладныя паўнамоцтвы, выкарыстоўваючы іх дзеля памнажэння дабрабыту людзей, не ствараючы ўласнай маёмасці.

Савецкая «ўлада сілы» ўвасаблялася ў спецыяльных дзяржаўных структурах — так званых «сілавых органах» і «карных органах», іх падраздзяленнях на месцах. Галоўнымі з сілавых органаў з'яўляліся тыя, якія мелі права выкарыстоўваць аператыўна-пошукавую дзейнасць, у сучасным разуменні з'яўляліся спецслужбамі. Спецслужбы складалі падставы і рабілі абгрунтаванне для існавання «ўлады сілы» і яе дзеянняў. Да карных органаў належалі спачатку ваенна-рэвалюцыйныя камітэты, потым «пралетарскія» суды, пракуратура, тыя ж спецслужбы, міліцыя, сістэма папраўча-працоўных лагераў.

Савецкая «ўлада сілы» мела формы фізічнага і псіхалагічнага ўздзеяння на асобу і людзей. Фізічнае ўздзеянне дапамагае зламіць асабістую і калектыўную волю, псіхалагічнае — зрабіць вынік фізічнага ўздзеяння прыязным і нават жаданым. Першапачатковай формай фізічнага ўздзеяння быў тэрор — для палітычных праціўнікаў гвалт аж да фізічнага знішчэння, забойства, для астатніх — гвалт з тактыкай запалохвання.

Пачынаючы з 1930-х гадоў савецкая ўлада становіцца персаніфікаванай. Калектыўнае кіраўніцтва адышло на другі план, «уладу сілы» сталі ўвасабляць лідары тых частак улады, якія адказвалі менавіта за псіхалагічнае ўздзеянне. Гэтыя часткі называліся — кіруючыя органы Камуністычнай партыі Беларусі (КПБ), лідарам якой з'яўляўся першы сакратар Цэнтральнага Камітэта КПБ. Кіруючая роля КПБ была замацаваная ў Канстытуцыі БССР, у апошнім яе варыянце яна называлася «ядром палітычнай сістэмы» краіны.

У 1930-я гады формы фізічнага і псіхічнага ўздзеяння былі супольныя, мелі форму рэпрэсій. З дапамогай рэпрэсій улада ізалявала і вынішчала тую частку насельніцтва, якая ў той ці іншай форме не жадала падпарадкоўвацца. Людзей расстрэльвалі не толькі за актыўны супраціў, але і за пасіўны — за так званыя антысавецкія ці контррэвалюцыйныя анекдоты, прыпеўкі і нават размовы.

### Сутнасць не змянілася

У сваім развіцці савецкая ўлада стала сукупнасцю розных форм улады, вызначаных навукоўцамі. Яна была ўладай і сілы, і прымусу, і падахвочвання, і пераканання, і маніпуляцыі, і аўтарытэта. У апошнім выпадку выкарыстоўваўся як аўтарытэт самой улады, яе папулярнасць, так і папулярнасць і аўтарытэт не далучаных да ўлады асоб ці з'яў. Кожная з гэтых формаў улады прадстаўленая ў савецкай уладзе на розных этапах развіцця СССР-БССР у розных ступенях інтэнсіўнасці. Але, нягледзячы на выкарыстанне розных форм, галоўным складнікам савецкай улады заўсёды была «ўлада сілы». Можна пазбавіцца слова «дыктатура»,

# не дзейнічае сіла закона

замяніць слова «пралетарыят» на слова «беларускі народ», але сутнасць улады ад гэтага не змяніцца.

Мэтай савецкай улады было выклікаць падпарадкаванне насельніцтва ідэям, абвешчаным кіраўнікамі Камуністычнай партыі. Дасягнуць гэтага дапамагала вызначэнне накіраванасці ідэй і форм іх увасаблення, якое, як абвяшчалася, павінна было найбольш поўна адлюстроўваць і задавальняць матэрыяльныя і духоўныя патрэбы тагачаснага чалавека і людзей. Разам з тым, ідэальным для савецкай «улады сілы» было дасягнуць свядомага падпарадкавання з боку ўсяго насельніцтва, і асабліва ўплывовых у грамадстве людзей. Дзеля гэтага да «ўлады сілы» далучаліся заахвочванне, маніпуляцыі, выкарыстанне аўтарытэту, павялічвалася выкарыстанне спосабаў і метадаў псіхалагічнага ўздзеяння.

Заўважу, што пры «ўладзе сілы» ніколі не дзейнічае сіла Закона. Пры савецкай уладзе Закон быў формай, якая дапамагала легітымізаваць дзеянні «ўлады сілы». Савецкія людзі для вырашэння сваіх праблем менш за ўсё звярталі ўвагу на суды і законы.

Сіла як форма ўлады выключае магчымыя альтэрнатывы ў стаўленні да канчатковага выніку ўздзеяння ўлады, крытычныя адносіны да яго. Тым самым яна абмяжоўвае агульны набор наяўных у людзей альтэрнатыў, не дае сфарміравацца моцным апазіцыйным плыням. Нягледзячы на гэта, каб лепей маніпуляваць грамадскай думкай, савецкая «ўлада сілы» мела патрэбу ў наяўнасці пастаянных «ворагаў», з якімі яна паспяхова змагалася. Калі ворагаў ужо не заставалася, карныя органы самі стваралі «контррэвалюцыйныя арганізацыі».

У савецкай сістэме «ўлады сілы» мела месца ўстойлівая барацьба паміж той часткай улады, якая выкарыстоўвала метады фізічнага ўздзеяння, і той, якая выкарыстоўвала метады псіхалагічнага ўздзеяння. Гэта была барацьба за магчымасць мець поўнае валадарства над краінай. На розных этапах развіцця БССР перамогу атрымлівалі як прыхільнікі непасрэдна фізічнага ўздзеяння («ворагаў трэба вынішчаць»), так і псіхалагічнага («сучаснае пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме»).

Савецкая сістэма «ўлады сілы» не можа існаваць без метадаў фізічнага ўздзеяння, у той ці іншай форме яны з'яўляюцца асновай развіцця сістэмы. Ужыванне фізічнай сілы наўпрост звязанае з існаваннем вобраза «ворага», з якім улада мусіць змагацца і якога павінна перамагаць. У пошуках ворагаў і перамозе над імі галоўную ролю заўсёды адыгрывалі спецслужбы. Роля спецслужбаў у савецкай мадэлі «ўлады сілы» цэнтральная — яны па вызначэнні адказныя за паспяховае развіццё краіны.

У спецслужбаў у мадэлі савецкай «улады сілы» ёсць і псіхалагічны складнік. Яны павінны трымаць насельніцтва ў пастаянным напружанні. Напружанне звязанае як з існаваннем ворагаў і іх дзейнасцю, так і з тым, што кожны, хто не падтрымлівае ўладу, можа стаць ворагам. Паколькі «падтрымка ўлады» — паняцце вельмі расплывістае, ворагам можа стаць кожны.

## Другасны характар

Для разумення спецыфікі тагачаснай і сучаснай беларускай «улады сілы» вельмі важнай з'яўляецца яшчэ адна гістарычная акалічнасць. Беларуская «ўлада сілы» мела другасны характар, яна толькі транслявала рашэнні, прынятыя ў Маскве, даводзіла іх да ведама людзей. Яна была накіраваная толькі на выкананне, на забеспячэнне падпарадкавання, і была няздольная сама выбіраць накірункі развіцця, несці адказнасць за самастойны выбар. Тыя людзі з кіраўніцтва БССР, якія хацелі ствараць беларускія накірункі «ўлады сілы», ці забіраліся ў Маскву, дзе ім даручалася працаваць над праблемамі агульнасаюзнага развіцця, ці проста фізічна вынішчаліся. Гэта стварала ў беларускім грамадстве ілюзію невінаватасці беларускіх органаў савецкай улады ва ўсіх хібах і злачынствах самой савецкай улады.




Фота Улада Рубанава

**Людзі, якія ў 1994 годзе галасавалі за вяртанне савецкай улады, спадзяваліся, што новае пакаленне будзе жыць хай не пры камунізме, але на ўзроўні магчымасцяў сучаснай цывілізацыі. Але, як і раней, да добрага ладу жыцця краіне далёка**

Савецкая мадэль «улады сілы» ў свой час была прыязна прынятая насельніцтвам, якому ўяўлялася прыкладнай формай і нормай кіравання. Папулярнасці гэтай мадэлі спрыяла і тое, што яна стала своеасаблівай непублічнай грамадскай дамовай паміж уладай і людзьмі. Іншымі словамі — беларускія савецкія людзі былі згодныя даць нейкай уладнай групе і яе лідару бязмежныя, і нават дыктатарскія паўнамоцтвы, але за гэтыя паўнамоцтвы ўладнай групе трэба было заплаціць адсутнасцю ўласнай маёмасці і пастаяннай працай на карысць саміх беларускіх людзей — так, як самі людзі гэтую карысць разумелі. Улада і людзі ў грамадскай свядомасці павінны былі быць роўныя, перш за ўсё, паводле матэрыяльнага становішча. Парушэнне гэтай дамовы напрыканцы 1980-х гадоў прывяло да крызісу савецкай улады, выйсцем з якога стаў распад СССР.



Фота Паўла Аксіновіча

Савецкая ўлада брала на сябе адказнасць і за асабістае жыццё чалавека, нават у самых інтымных яго частках. Так, калі муж не быў верны сваёй жонцы (ці наадварот), гэтае пытанне магло быць абмеркаванае па месцы працы, яго маглі разглядаць на пасяджэнні партыйных органаў. Такую ўладу беларускія савецкія людзі лічылі народнай, і калі нават не надта любілі, прымалі без сур'ёзнага супраціву.

Пры фарміраванні сучаснай беларускай улады прыкладны вобраз савецкай «улады сілы» быў поўнасцю выкарыстаны і ўвасоблены ў новае беларускае жыццё. Спачатку гэты вобраз стаў асновай перадвыбарчых выступленняў першага кіраўніка Беларусі, далей — яго паводзінаў ужо як лідара краіны. Галасуючы на першых прэзідэнцкіх выбарах, беларускія людзі галасавалі за ўзнаўленне ў краіне савецкай «улады сілы».

Свае перадвыбарчыя абяцанкі ў гэтай галіне кіраўнік дзяржавы выканаў. Беларуская ўлада засталася савецкай. Змяніліся толькі назвы, дый тое не ўсе. Калектыўныя формы кіравання знайшлі месца ў двухпалатным парламенце ў выглядзе Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, які складаецца з Савета Рэспублікі і Палаты прадстаўнікоў. Непасрэдныя дыктатарскія паўнамоцтвы, якія ў часы БССР меў першы сакратар ЦК КПБ, перададзеныя кіраўніку дзяржавы, ролю ЦК КПБ паспяхова выконвае Адміністрацыя прэзідэнта. Нават назва галоўнага рэпрэсіўнага органа не змянілася.

## «Чысты» эксперымент

З моманту ўтварэння незалежнай Беларусі прайшло болей за 25 гадоў, нарадзілася новае пакаленне, якое пражыло сваё жыццё пад «уладай сілы». У фізіцы такая сітуацыя называецца «чысты» эксперымент. Што мы маем у выніку?

Зніжэнне нормаў маральнасці, стварэнне новай маральнасці — маральнасці «сілы». Першымі не вытрымалі слабыя — у Беларусі вырас і расце ўзровень самагубстваў.

Беларусь займае першае месца ў свеце па колькасці паліцэйскіх на душу насельніцтва — нават у Расіі менш. АМАП — папулярная ў маладых хлопцаў установа, дзе прэстыжна працаваць. Дзяўчаты прыхільна ставяцца да такіх хлопцаў, дзеці ганарацца такімі бацькамі.

Маладое пакаленне мае зусім іншы культурны ўзровень. Паэзія і літаратура пазбаўленыя рамантыкі, я б сказала, паэзія ўжо ператвараецца ў рэп. «За туманам» і «за запахам тайгі», як спявала моладзь 1970-х, нікому нават у галаву не прыйдзе ехаць. Серыялы і мастацкія фільмы — пра культ сілы. Для справядлівасці зазначу, што «Беларусьфільм» яшчэ неяк прытрымліваецца старых поглядаў, але гэта выклікае толькі насмешкі.

Людзі па-свойму бароняць сябе ад «улады сілы». Вырасла папулярнасць сілавых відаў спорту. Дачка майго брата мае нейкі пояс па каратэ. Нават у нашай вёсцы (цяпер аграгарадок) створаны клуб, які займацца ўмацаваннем фізічнага развіцця.

Вырашэнне любых канфліктаў адбываецца толькі з ужываннем сілы — на ўсіх узроўнях. «Улада сілы» забівае ў чалавеку любоў ва ўсіх яе праявах.

Калісьці, у савецкія часы, 20 гадоў адводзілася на пабудову камунізму — такога ладу жыцця, дзе ўсім будзе добра і хораша. Людзі, якія ў 1994 годзе галасавалі за вяртанне савецкай улады, мелі надзею на тое, што гэтае новае пакаленне будзе жыць хай не пры камунізме, але на ўзроўні магчымасцяў сучаснай цывілізацыі. Але, як і раней, да добрага ладу жыцця краіне далёка. Гісторыя засведчыла — савецкая «ўлада сілы» ў прынцыпе няздольная да мірнай стваральнай справы. Нешта атрымоўваецца толькі тады, калі ёсць змаганне з ворагамі — контррэвалюцыянерамі, апазіцыянерамі, карупцыянерамі і інш. І нават, цяпер ужо і з самой уладай.

Беларускі феномен улады, па-ранейшаму заснаваны на «ўладзе сілы», шукае новых ворагаў.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. ФСБ палюе на фрыкаў

Палітолагі Расіі спрабуюць зразумець дзіўныя ўчынкі сваіх сілавікоў. У канцы ліпеня быў арыштаваны гісторык і пісьменнік Аляксей Мяняйлаў. Яго разам з жонкай адправілі ў СІЗА за стварэнне секты «Партызанская праўда партызан». Следчыя лічаць, што Мяняйлаў разам са сваімі паслядоўнікамі займаўся экстрэмісцкай дзейнасцю. Сам жа арыштаваны мае ў грамадстве ўстойлівы імідж фрыка. Дастаткова сказаць, што ён вядзе відэалекцыі на тэмы кшталту «Як зрабіць самой сабе кунілінгус» і стварыў тэорыю пра тое, што Сталін быў вялікім палітыкам, дзякуючы зліццю з шаманам у адзіны арганізм падчас высылкі ў Сібіры. Пра дзіўны характар хапуна сведчыць і тое, што крымінальную справу распачалі на падставе заявы мужа і жонкі, якія называюць сябе «нашчадкамі Рурыка». Рэпрэсіямі супраць Мяняйлава чыстка не абмежавалася. Днямі ФСБ узялася за стаматолага Сяргея Тараскіна, які абвясціў сябе прэзідэнтам СССР. Як і Мяняйлава, яго падазраюць у экстрэмізме. Навошта ўсё гэта чэкістам? Адзіная версія — за кошт арыштаў чэкісты хочуць палепшыць справаздачнасць (такіх, як Мяняйлаў, прасцей хапаць, чым сапраўдных тэрарыстаў). Да таго ж арышты павінны запалохаць абывацеляў, якія падумваюць пра ўдзел у пратэстах супраць пенсійнай рэформы.

**Паводле расійскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Што рабіць з Мартай?

У польскіх кансерватараў абвастрылася праблема пад імем Марта. Гаворка пра Марту Качыньскую — дачку прэзідэнта Леха Качыньскага, які загінуў у 2010 годзе ў катастрофе пад Смаленскам. Вобраз загінулага прэзідэнта адыгрывае вялікую ролю ў светапоглядзе кансерватыўных палякаў і ідэалогіі ўрадавай партыі «Права і справядлівасць» (PiS). Але святы вобраз Леха Качыньскага часам псуе Марта, у якой вельмі бурлівае асабістае жыццё. Яшчэ не забыўся першы шлюб Марты, які кіраўніцтва PiS вырашыла выкарыстоўваць у палітычных мэтах. Партрэт Марты з дзіцём змясцілі на партыйныя білборды з подпісам «Сям'я. Годнасць. Праца». Аднак доўга білборды не прастаялі, паколькі Марта падала на развод. Яе другі шлюб адразу ж выклікаў скандал — першы і другі муж спрачаліся ў судзе за бацькоўства другога дзіцяці. Зрэшты, другі шлюб таксама быў нядоўгім. І вось новы шок — Марта ў трэці раз выйшла замуж, што, вядома, рыкашэтам ударыла па аўтарытэце PiS, якая заклікае ахоўваць сямейныя каштоўнасці.

**Паводле польскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Пакрыўдзілі класіка

У Казахстане незвычайны скандал праз Абая Кунанбаева (1845–1904). Гэтая постаць — культавая ў казахскай літаратуры, у чымсьці аналагічная Францішку Багушэвічу ў беларускай. І вось нейкі бізнес-трэнер Нурлан Байдыльда запісаў відэаролік з маналогам, у якім аспрэчыў культ Абая. «Я не прызнаю Абая Кунанбаева вялікім і яго месца ў гісторыі казахскага народа, якое ён цяпер займае, — сказаў Байдыльда. — Што ён зрабіў? У цяжкія часы павёў за сабой людзей або выратаваў іх? Ці быў Батыр і геройна ваяваў, зваёўваў землі? Кіраваў народам і падняў яго дабрабыт? Ён нават не кіраваў аулам!» Такая ацэнка Кунанбаева выклікала шквал пратэстаў. А адзін з вядомых казахскіх баксёраў-прафесіяналаў нават паабяцаў «набіць Нурлану пры сустрэчы тлустую пысу». Ёсць версія, што напад на класіка — частка нейкай больш глабальнай стратэгіі. Замах на культ Кунанбаева — гэта разбурэнне ў масавай свядомасці базавых паняццяў: што такое добра і што такое дрэнна. У перспектыве кампанія супраць Абая Кунанбаева, мауляў, павінна стварыць перадумовы для крытыкі іншых казахстанскіх інстытутаў і стварэння рэвалюцыйнай сітуацыі.

**Паводле казахскай прэсы**

### АЎСТРЫЯ. Ксенафобы дапамагаюць жывёлам

Секцыя аўстрыйскай «Партыі свабоды» (FPO) у зямлі Ніжняя Аўстрыя нечакана зацікавілася абаронай жывёлаў. На думку «свабодаўцаў», жывёлы ў тым ліку пакутуюць праз рэлігійныя забабоны тых прыхільнікаў іудаізму, якія ўжываюць кашэрную ежу. Каб прыгатаваць кашэрную ежу, трэба прытрымлівацца спецыяльных рытуалаў. Напрыклад, існуюць спецыяльныя правілы забівання жывёлаў — шхіта. Забой, паводле шхіты, выконваецца адным хуткім рухам вельмі вострага клінка (халеф). У некаторых краінах такія формы забою забароненыя як антыгуманныя, што дазволіла FPO прапанаваць арыгінальны законапраект. Каб максімальна менш жывёл пакутавала ад шхіты, прапануецца скласці спіс вернікаў-габрэяў у Аўстрыі і прадаваць кашэрнае мяса толькі фігурантам гэта спісу. У перспектыве ёсць ідэя распаўсюдзіць гэтае ж правіла на мусульман — аматараў халяльнага мяса. Еўрапейская абшчына Аўстрыі асудзіла ідэю, убачыўшы тут вяртанне часоў Трэцяга рэйху. У часы Гітлера ўсіх габрэяў таксама абавязалі рэгістравацца ў органах улады, што пазней спрашчала палітыку іх знішчэння.

**Паводле амерыканскай прэсы**



Фота www.apnews.com

# «Нашы хлопцы вярнуліся дадому»

Алег НОВІКАЎ

**У ЗША прыйшлі першыя труны з жаўнерамі ЗША, якія былі пахаваныя на тэрыторыі сучаснай КНДР падчас карэйскай вайны 1950–1953 гадоў.**

Жнівень лічыцца часам адпачынку, аднак гэтая ўстаноўка не тычыцца Дональда Трампа. Гаспадар Белага Дому сёння ездзіць па штатах, каб падтрымаць кандыдатаў-рэспубліканцаў на восеньскіх парламенцкіх выбарах. Ад іх вынікаў залежыць лёс самога Трампа. Калі большасць у Кангрэсе атрымаюць дэмакраты, пытанне імпічменту прэзідэнта амаль непазбежнае.

Каб пераканаць галасаваць за рэспубліканцаў, падчас выбарчых мітынгаў Трамп, натуральна, агучвае поспехі працы сваёй адміністрацыі — эканамічны рост і, адпаведна, скарачэнне беспрацоўя, прызнанне Іерусаліма сталіцай Ізраіля і гэтак далей. Не абыходзяцца прамовы Трампа і без фразы: «Нашы хлопцы вярнуліся дадому», якую натоўп сустракае каскадам апладысментаў. Размова пра першую партыю парэшткаў амерыканскіх жаўнераў, якія былі забітыя ў час вайны ў Карэі і вярнуліся на Радзіму.

Паводле розных падлікаў, у КНДР пахавана каля 5 тысяч амерыканцаў. Галоўным чынам гэта ўдзельнікі славутай бітвы каля вадасховішча Чосін. Праўда, пацярпелі амерыканцы тады не ад карэйскіх камуністаў, а іх кітайскіх, якія прыйшлі на дапамогу Кім Ір Сену. Напрыканцы лістапада 1950 года кітайская армія ўступіла на карэйскі фронт, дзе поўная ініцыятыва на той час належала войскам ААН (кааліцыі заходніх дзяржаў). Кітайцы, разгарнуўшы маштабны наступ, цалкам змянілі сітуацыю на вайсковым тэатры. У прыватнасці, на ўсходнім узбярэжжы Карэі ў раёне вадасховішча Чосін корпус войскаў ААН, што складаўся з брытанцаў і амерыканцаў, быў акружаны і адрэзаны ад тылу.

У вельмі складаных зімовых умовах, калі тэмпература даходзіла да мінус 40 градусаў, амерыканскія фармаванні здолелі праравіць кола і эвакуявацца па моры. Тая баталія, як лічаць гісторыкі, па сутнасці вырашыла лёс агульнага супрацьстаяння. Абодва бакі зразумелі, што канчатковай перамогі не будзе, і маральна пачалі рыхтавацца да будучых мірных перамоў.

Так ці інакш, бітва пры вадасховішчы Чосін лічыцца адной з найбольш славутых старонак у гісторыі марской пяхоты ЗША. Ужо праз два гады пасля той баталіі Галівуд зняў фільм «Retreat, Hell!», прысвечаны славутаму прарыву. Праўда, ёсць і негатыўны бок — вялікая колькасць ахвяраў у шэрагах марпехаў. ЗША страцілі ў тых баях каля 2500 чалавек (праўда, колькасць

**Вяртанне парэшткаў жаўнераў можа стаць пралогам да выбуху сапраўднага скандалу. Калі ў КНДР засталіся трупы амерыканцаў, то, напэўна, былі і тыя, хто трапіў у палон? А Вашынгтон нічога не рабіў для іх вызвалення**

забітых кітайцаў ацэньваецца ўвогуле ў фантастычную лічбу — 25 тысяч). Паколькі амерыканцы адступілі, пытанне пахавання давялося вырашаць уладам КНДР. Калі верыць прэсе, рабілі гэта вельмі проста — кідаючы трупы ў агульную яму.

Улады КНДР, натуральна, нават у думках не дапускалі перапахавання нябожчыкаў-амерыканцаў на радзіме. Што ўжо казаць пра візіт нейкага грамадзяніна ЗША на магілу роднага. Толькі адзін раз, у 2005 годзе, нейкую паўднёвакарэйскую групу валанцёраў дапусцілі на месца пахавання амерыканцаў. Аднак Пхеньян зноў пасварыўся з Захадам, і місія скончылася.

Лёд зрушыўся толькі ў гэтым годзе, калі падчас чэрвеньскага саміту Дональд Трамп і Кім Чэн Ын дамовіліся пра рэпатрыяцыю парэшткаў амерыканцаў. Гістарычная падзея адбылася нядаўна на Гаваях. Сюды з Паўночнай Карэі прыбыла першая партыя парэшткаў амерыканцаў. Сустракаў труны асабіста віцэ-прэзідэнт ЗША Майк Пенс. Удзел Пенса быў сімвалічным, калі ўзгадаць, што яго бацька таксама ваяваў у Карэі. У сваім выступе палітык прывітаў суайчыннікаў, якія нарэшце вярнуліся на радзіму. Ён таксама выказаў надзею, што вяртанне амерыканцаў працягнецца, ствараючы базу для дыялогу з КНДР. Прысутныя на цырымоніі (там было шмат родных забітых у Карэі) не маглі ўстрымацца ад слёз.

Аднак да перапахавання яшчэ далёка. Трэба будзе правесці ідэнтыфікацыю нябожчыкаў. Спецыялісты абяцаюць, што гэта не складзе асаблівай праблемы. На той час кожны жаўнер ужо меў медальён з асабістым нумарам.

Тым не менш, пра хэпі-энд казаць вельмі рана. Па-першае, чым больш Трамп распавядае пра «вяртанне нашых хлопцаў», тым больш будзе спакусы ў Пхеньяна выкарыстаць балючую для амерыканцаў тэму ў сваіх інтарэсах. Вяртаць рэшткі жаўнераў можна вельмі доўга — як бы здымаючы пры гэтым пытанне атамнай праграмы КНДР.

Па-другое, вяртанне парэшткаў жаўнераў можа стаць пралогам да выбуху сапраўднай інфармацыйнай бомбы. Паўстае пытанне: калі ў КНДР засталіся трупы амерыканцаў, то, напэўна, былі і тыя, хто трапіў у палон. У 1996 годзе «The New York Times» апублікавала сакрэтныя дакументы Мінабароны 1950-х гадоў. Калі верыць ім, каля 900 амерыканцаў сядзелі на той час у турмах Паўночнай Карэі. Пры гэтым Вашынгтон нічога не рабіў для іх вызвалення. Пентагон імкліва абверг публікацыю, аднак сумневы ў грамадскасці засталіся.

# Вайна 8.8.8. Альтэрнатыўны погляд

Алег НОВІКАЎ

**Жанр альтэрнатыўнай гісторыі сёння ў модзе. Не прайшлі яе адэпты і міма падзей дзесяцігадовай даўніны, калі ў жніўні 2008-га запалала расійска-грузінская вайна.**


Фота www.kavkaz-uzel.eu

Нагадаем, 8–12 жніўня 2008 года паміж Расіяй і Грузіяй пачаўся ўзброены канфлікт. Расійскія войскі сумесна з асецінскімі фармаваннямі выціснулі грузінскія войскі з Паўднёвай Асеціі, якая афіцыйна з'яўляецца часткай Грузіі. Пасля расіяне часова занялі шэраг прылеглых да канфліктнай зоны раёнаў Грузіі. Адначасова Расія прызнала незалежнасць Паўднёвай Асеціі і Абхазіі. Грузія, у сваю чаргу, спыніла дыпламатычныя адносіны з Расійскай Федэрацыяй. Вось кароткае рэзюме тых падзей.

А як бы выглядаў цяперашні каўказскі палітычны пейзаж, калі б гісторыя ў адзін са сваіх пераломных момантаў (вайна 2008-га) пайшла па іншым шляху? Або, напрыклад, вайны ўвогуле б не было?

Грузінскі апазіцыянер Ніно Бурджанадзэ ўпэўненая: калі б не вайна 2008 года, ужо даўно можна было б урэгуляваць сітуацыю вакол Паўднёвай Асеціі. Паводле яе словаў, на той час адносіны паміж грузінамі і асецінамі пачалі паляпшацца. А кампраміс з асецінамі, у сваю чаргу, стаўся б выдатным прыкладам і для Абхазіі. «У жніўні 2008-га Саакашвілі, які атакаваў Цхінвалі, забіў гэтыя пазітыўныя парасткі», — лічыць Бурджанадзэ.

Іншыя не вераць, што Расія пагадзілася б аддаць Цхінвалі. На думку выдання «Каўказ Online», без жнівеньскай вайны цяперашняя сітуацыя ў Грузіі адрознівалася б толькі колькасцю ўцекачоў і тым, што Расія па-ранейшаму мела б статус пасярэдніка ў канфлікце. Шматгадовая безвыніковая спроба аднаўлення тэрытарыяльнай цэласнасці бясконца працягвалася б, як той мексіканскі серыял.

«Каўказ Online» таксама дапускае, што без канфлікту 8.8.8 Міхаіл Саакашвілі мог хутчэй пакінуць сваю пасаду. У 2008 годзе пачаўся глабальны эканамічны крызіс, які закрануў і Грузію. Парадаксальна, але дзякуючы вайне Грузія, як пацярпелая краіна, у кастрычніку 2008 года на канферэнцыі донараў у Брусэлі атрымала дапамогу ў памеры 4,55 мільярда долараў, што моцна дапамагло як эканоміцы краіны, так і стабілізацыі рэжыму Саакашвілі.

Цікавы варыянт альтэрнатыўнай гісторыі прапанаваў у 2011-м Дзмітрый Мядзведзеў. Ён дапусціў: «Калі б не вайна з Грузіяй, у NATO прынялі б некалькі краін насуперак пазіцыі Расіі». Сапраўды, падзеі на Каўказе спалохалі Захад. Яго лідары зразумелі, што, калі б Грузія была б сябрам Альянсу, то NATO апынуўся б уцягнутым у вайну з Расіяй. Размовы пра наданне Грузіі і Украіне статусу кандыдатаў на сяброўства ў блоку з таго часу больш афіцыйна не ўздымаюцца. У гэтым кантэксце цытата Мядзведзева пасуе версіі вайсковага эксперта Міхаіла Іларыёнава. Іларыёнаў мяркуе, што вайна ў Паўднёвай Асеціі была проста непазбежнай. Расіі ў тым ліку трэба было давесці Захаду рызыкі ад сяброўства краін СНД у блоку.

Спрабуюць сёння дапусціць і іншыя варыянты ходу баявых дзеянняў. Той жа Саакашвілі ўпэўнены, што грузінам давялося адступаць выключна з-за адсутнасці на перадавой самай баяздольнай грузінскай брыгады, якая ў той час дыслакавалася ў Іраку. Таксама пішуць пра

**Аналізуюць вайну 8.8.8 і праз прызму працэсаў ва Украіне. Кажуць пра фатальную памылку Захаду. Падзей у Крыме і на Данбасе можна было б пазбегнуць, калі б Захад больш жорстка рэагаваў на тагачасныя вайсковыя акцыі РФ**

правал грузінскіх штабістаў: маўляў, мела сэнс не бамбіць Цхінвалі, а браць ці заблакаваць Рокскі перавал — адзіны шлях з Паўднёвай Асеціі ў РФ. У такім выпадку Грузія магла б выйграць час, а магчыма, і вайну. «Быў шанец дацягнуць да моманту, калі ў Расіі пачуццё эйфарыі змянілася б пачуццём незадаволенасці непапулярнай вайной. А на Захадзе з кожным днём нарастала б палітычная і ваенная падтрымка Тбілісі», — пішуць на форумах.

Шмат спекуляцый выклікае перспектыва наступстваў уваходу расіян у сталіцу Грузіі ў жніўні 2008-га. «Калі б яны (расійскія войскі) увайшлі ў Тбілісі, то, хутчэй за ўсё, цяпер у Грузіі быў бы іншы прэзідэнт», — заявіў Мядзведзеў у адным з інтэрв'ю. Шанец на стварэнне новай акупацыйнай адміністрацыі, напэўна, сапраўды быў. Як пісаў Павел Шарамет у кнізе «Грузія. Загінулыя мары», у тыя дні на берагах Куры назіраліся ўсе прыкметы вакууму ўлады. «Многія высокапастаўленыя грузіны вывозілі свае сем'і куды падалей, кіруючая грузінская эліта ў большасці сваёй апынулася ў прастрацыі, запанікавала», — адзначаў журналіст.

Натуральна, узнікае пытанне пра легітымізацыю новай улады. Не выключана, што ад грузінаў марылі дамагчыся лаяльнасці за кошт вяртання ў склад краіны... Абхазіі і Паўднёвай Асеціі!

У 2017-м адстаўны кіраўнік ураду Абхазіі Сяргей Шамба распавёў пра цікавы праект Дзмітрыя Мядзведзева, які той агучыў у жніўні 2008 года. Па словах Шамбы, Мядзведзеў настойліва рэкамендаваў Абхазіі і Паўднёвай Асеціі стварыць разам з толькі што разбітай Грузіяй канфедэрацыю. Больш за тое, нібыта, гэтую ідэю падтрымліваў Нікаля Сарказі. А вось Саакашвілі ўпэўнены, што ўваход расійскай арміі справакаваў бы наўпроставае сутыкненне ЗША і РФ. «Калі б рускія ўзялі Тбілісі, ЗША ўдарылі б па Асеціі», — упэўнены ён.

Аналізуюць вайну 8.8.8 і праз прызму актуальных працэсаў ва Украіне. Пракрамлёўскі палітолаг Іслам Сайдаеў лічыць, што Мядзведзева за загад не браць Тбілісі ў 2008 годзе трэба саджаць у турму. «Не было б сёння праблем з Украінай, калі б мы скончылі з Грузіяй. Таму што мы не дабілі той ачаг нянавісці, і ён перакінуўся на Украіну», — мяркуе Сайдаеў. У сваю чаргу, ва ўкраінскіх экспертных колах кажуць пра фатальную памылку Захаду дзесяцігадовай даўніны. Падзей у Крыме і на Данбасе можна было б пазбегнуць, калі б Захад рэагаваў больш жорстка на тагачасныя вайсковыя акцыі РФ. Дарэчы, тады ва ўкраінскім палітыкуме назіралася сумная выснова: «Мы наступныя».

Наўрад ці пералічанымі фабуламі альтэрнатыўная гісторыя вайны 2008-га абмяжуецца. Відавочна, што той канфлікт быў катаклізмам для постсавецкай прасторы. Выкліканы ім дыскамфорт заўжды будуць намагацца кампенсаваць. Не кажучы пра тое, што, па сутнасці, вайна 8.8.8 у іншай форме трывае дасюль.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Пётр Парашэнка



Цяжка сказаць, якое месца зойме сённяшні прэзідэнт Украіны ў гісторыі. Не выключана, што як кіраўнік з найгоршай камандай.

Дзякуючы дарадчыкам, Парашэнка літаральна за тыдзень пракалоўся аж тры разы. Спачатку не апраўдаўся прагноз пра тое, што Канстанцінопальскі патрыярх да пачатку жніўня абавязкова дасць Кіеву згоду на стварэнне аўтакефальнай царквы. Паводле прэсы, з гэтай тэмай Парашэнка насіўся, даверыўшыся намесніку кіраўніка сваёй адміністрацыі. Пасля нехта з атачэння параіў яму асабіста прывітаць нейкага Аляксандра Касценку, якога днямі вызвалілі з расійскай турмы. Парашэнка назваў яго ўкраінскім палітвязнем. Між тым высвятляецца, што Касценка мае вельмі авантурную біяграфію. Чалавек атрымаў турэмны тэрмін у Расіі, куды збег з Украіны, дзе праходзіць па крымінальнай справе. Каб цалкам замясці сляды, Касценка нават прыняў расійскае грамадзянства. І, нарэшце, сваім указам ён да Дня Канстытуцыі ўзнагародзіў званнем «Заслужаны работнік культуры Украіны» нейкага Андрэя Аўдзеенку, які называе сябе «адміралам», «акадэмікам» і «гісторыкам», хаця ўсе гэтыя рэгаліі з'яўляюцца выдумкай.

Як з такімі кадрамі Парашэнка збіраецца ісці на выбары прэзідэнта? Па сутнасці, выбарчая кампанія пачнецца ўжо 24 жніўня, калі Украіна адзначыць Дзень незалежнасці.



### Луіс Інасіу Лула да Сілва

Экс-прэзідэнт Бразіліі, харызматычны лідар мясцовай левай Партыі працоўных (PT) зноў збіраецца стаць кіраўніком дзяржавы. 4 жніўня канферэнцыя PT прыняла рашэнне вылучыць яго ў якасці кандыдата на вышэйшую пасаду.

Гэта з'яўляецца папросту беспрэцэдэнтным крокам: Лула да Сілва асуджаны за карупцыю. Акрамя таго, закон забараняе яму ўдзельнічаць у выбарах. Старшыня Вярхоўнага суда асабіста заявіў, што не дапусціць удзелу Лула да Сілва ў выбарах. З іншага боку, магчыма, кіраўніцтва PT і мае рацыю. Па-першае, вердыкт суда дасюль аспрэчваецца адвакатамі. Апеляцыйны працэс працягваецца. Па-другое, Лула да Сілва мае добрыя сувязі ў сусветнай палітычнай эліце і ў касцёле. Нельга забываць, што ў 1970-я гады ён быў флагманам барацьбы з дыктатурай вайскоўцаў у Бразіліі. Прынамсі ўсе сацыялістычныя партыі свету патрабуюць яго вызвалення. Нарэшце, ён самы папулярны палітык з рэйтынгам 30 працэнтаў.

Цяпер усю краіну ахапілі вулічныя акцыі за кандыдатуру Лулы да Сілва, якія, відавочна, ціснуць на судовыя органы. Нарэшце, у выпадку яго адсутнасці ў спісе кандыдатаў фаварытам выбараў становіцца заўзяты правы папуліст Жыар Балсанара (Jair Bolsonaro), які, напрыклад, заклікаў адправіць усіх чарнаскурых актывістаў у заапарк. Такім чынам, грамадству прапануюць больш-менш адэкватную альтэрнатыву ў выглядзе Лула да Сілва або яго прадстаўніка на дэбатах Фернанда Хадада (Fernando Haddad). Не выключана, што ў апошні момант да Сілва здыме сваю кандыдатуру на карысць Хадада, якога на самай справе і спрабуе раскруціць.

### Катрын Гёрынг-Экард



Адна з двух старшыняў нямецкай Партыі зялёных і яе структура паставілі абсалютны рэкорд у галіне талерантнасці.

У мінулую пятніцу маладзевая фракцыя «зялёных» заклікала ўрад Германіі надаваць статус уцекача ўсім ахвярам глабальнага пацяплення. Прычым ахвяры змены клімату, на думку зялёнага «камсамолу», маюць права аўтаматычна атрымліваць грамадзянства адной з краін ЕС. Трэба заўважыць, што ідэя была агучаная на фоне анамальнай высокай тэмпературы ў Еўропе.

Такая пазіцыя «зялёных» выклікала цікавасць у грамадстве. Простыя немцы патрабуюць, каб іншыя краіны таксама надавалі прытулак і немцам як ахвярам кліматычных зменаў. Аднак 6 жніўня фраў Гёрынг-Экард пайшла яшчэ далей. Ад імя партыі яна прапанавала ўраду аўтаматычна даваць нямецкі пашпарт кожнаму іншаземцу, які пажадае жыць у Германіі. Па яе словах, гэта абсалютна пасуе асноўным хартыям наконт правоў чалавека. «Слова «ўцякач» гучыць як сорам», — лічыць палітык.

Рыторыка Гёрынг-Экард, на думку некаторых палітолагаў, на самай справе з'яўляецца тонкім тролінгам актыву сацыял-дэмакратаў. Эсдэкі — сябры ўраду Меркель, якая не так даўно падтрымала шэраг антыміграцыйных законаў, што супярэчыць ідэйным прынцыпам любой левай партыі. За кошт падобных заяў Гёрынг-Экард, магчыма, намагаецца схіліць эсдэкаў да супрацоўніцтва з эколагамі дзеля стварэння левай урадавай кааліцыі.

# Козел-Паклеўскія:

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Гісторыка-краязнаўчы гадавік «Віленскі павет» прыйшоў да мяне выпадкова, праз знаёмага. Краязнаўца і патрыёт Вілейшчыны ведаў, што я пішу дакументальную кнігу пра Лагойскі раён. Маўляў, мы ж з вамі суседзі, раю прачытаць. Ва ўспамінах Козел-Паклеўскага пра бацьку (абодва Тадэвушы) я знайшла шмат цікавага і раней не вядомага.**





Паўстанне Каліноўскага

## Дзяды

Пачынальнік роду Юзаф, дзед па мячы, нарадзіўся на Віленскай зямлі ў родавым маёнтку Сэрвач. Ён і чацвёра яго братоў прымалі ўдзел у паўстанні супраць царызму ў 1863–1864 гадах. Былы штабс-капітан царскай арміі Вінцэнт арганізаваў групу паўстанцаў, якую царскае войска атачыла ва Уладыках. Сам прэзідэнт Польшчы адкрываў там помнік на магіле паплечнікаў Кастуся Каліноўскага ў міжваенны час. У 1961 годзе помнік быў зруйнаваны.

Уладзімір Кажамяка ў кнізе «Не пакідаюць нас белыя лебедзі» піша: «Паўстанцаў паўсюдна вышуквалі і забівалі на месцы, як гэта было 16 мая 1863 года ў Абадоўскай пушчы. Тут частка атрада пад камандаваннем Козел-Паклеўскага была знішчана цалкам. Некалькі чалавек патанулі ў рацэ Ілі. Царскія войскі таксама пацярпелі: хаця паўстанцы і былі заспеты знянацку, яны рашуча прымянілі зброю...» Двое братоў загінулі. Ацалелі два малодшыя змагары за вольнасць — Зянон і Юзаф, іх пакаралі ссылкай у Сібір.

Юзаф як удзельнік «студзеньскага паўстання» трапіў на прымусовую службу ў Омск. Невядома, колькі працягвалася тая служба, бо далёкі сваяк, фінансавы магнат і прамысловец Альфонс Фаміч з гэткім жа прозвішчам нейкім чынам здолеў забраць Юзафа да сябе ў губернскі горад Екацярынбург. Дакладней — на 250 кіламетраў далей, у Таліцу. Адкрываю назву ў сеціве… і што бачу? Што станцыя была перайменаваная, а раней, ад будаўніцтва магістралі Екацярынбург—Цюмень да 1963 года мела назву «Паклеўская».

Выяўляецца, што Альфонс Фаміч укладаў сродкі ў будоўлю чыгункі. І, відаць, немалыя, бо, скарыстаўшыся сувязямі ў сенаце, дамогся змены праекта. Чыгуначнае палатно і саму станцыю перанеслі бліжэй да яго уладанняў, для зручнасці дастаўкі сыравіны да вінакурнага завода і адвозу віна-гарэлачнай прадукцыі. Таму новая станцыя атрымала частку яго шляхецкага прозвішча. У Расійскай імперыі пісалася яно на замежны манер — Паклеўскі-Козел.

Юзаф дапамагаў патрону і знайшоў асабістае шчасце: ажаніўся са стрыечнай сястрой антакольскага сваяка, таксама высланага за мяцеж. Даў жыццё тром сынам: Юзафу, Вінцэнту і Тадэвушу (Род багаты на сыноў. Блытаніна можна ўзнікнуць з-за таго, што ў ім паўтараюцца аднолькавыя імёны).



Юзаф Доўбар-Мусніцкі

«Мой дзед памёр у 1915 годзе. Вестка пра яго смерць рэхам адгукнулася ў варшаўскай прэсе», — піша Тадэвуш-малодшы ў нататках «Мой тата».

## Бацька

Сыны Юзафа скончылі дзяржаўную гімназію ў Екацярынбурзе, атрымалі вышэйшую адукацыю. Два старэйшыя вучыліся ў Львове, а малодшы скончыў юрыдычны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта. Потым яны сустрэліся ў Бабруйску, у І Польскім корпусе (крэўная роднасць альбо любоў да Айчыны трымала іх поруч?).

У складзе І Корпуса тады налічвалася каля 24 тысяч салдат і афіцэраў. Камандаваў корпусам генерал-лейтэнант Рускай Імператарскай арміі Доўбар-Мусніцкі. Дарэчы, адным з афіцэраў быў і Уладзіслаў Андэрс, чыё імя ў Другую сусветную вайну стала сімвалам гераізму польскіх узброеных сіл у барацьбе з нацызмам. Вядомы даследчык Ігар Мельнікаў называе І Корпус «кузняй камандных кадраў будучай польскай арміі».

Тадэвуш Козел-Паклеўскі скончыў кавалерыйскае вучылішча, і ўсё яго далейшае жыццё было звязана з войскам і «стратэгічнай жывёлінай» — канём. Польская шляхта, як вядома, лічыла вайсковую службу сваім галоўным прызваннем. «Вось так сыны паўстанца 1863 года пасля 54 гадоў і пасля смерці бацькі сталі на той самы шлях барацьбы за незалежнасць Польшчы», — каментуе падзеі аўтар мемуараў.

Але гаворка ў нас пойдзе пра малодшага з сыноў Юзафа — Тадэвуша (1890–1942). Прыкладна ў 1916 годзе ён трапіў у сямейны маёнтак у Сэрвачы, куды пасля выгнання так і не вярнуўся бацька. У 1919 годзе, калі Польшча атрымала незалежнасць, браты ўступілі ў эскадрон запаснога палка пад кіраўніцтвам Закрэўскага.

Тадэвуш Козел-Паклеўскі, юнкер кавалерыі, прымаў удзел у баях з Чырвонай Арміяй пад Варшавай і быў узнагароджаны «Крыжам храбрых». Яго воінскія подзвігі высока ацаніў палкоўнік Адам Закрэўскі. Мяркуючы па штабных картах, якія захаваліся ў нашчадкаў, улан гнаў вестуноў сусветнай рэвалюцыі аж да Ракава і Радашковічаў, дзе амаль на 20 гадоў усталявалася ўсходняя мяжа Другой Рэчы Паспалітай.

## Уланы

Уланамі (ад турэцкага «юнак») называлі лёгкую кавалерыю з пікамі, шаблямі і пісталетамі. Іх форма адметная высокім чатырохкутным галаўным уборам — легендарнай канфедэраткай. Уланы былі гонарам Польшчы і ў 20–30-я гады лічыліся лепшымі ў Еўропе.

Вось як выглядаў летні расклад кавалерыйскага палка, які стаяў у Баранавічах у 1925 годзе і ўваходзіў у створаны Корпус аховы памежжа (КАП). Пабудка ў 4.30. Ад 4.45 да 5.15 паілі і кармілі коней. Пасля ранняга сняданку 45 хвілін займаліся гімнастыкай. Астатні час аддавалі вучэнням.

Ад ураджэнца Вілейшчыны Міхаіла Саўчыца чула я прыпеўку польскіх кавалерыстаў, пачутую ім у дзяцінстве і перайначаную на беларускі лад:

*Шаблі ў рукі, пікі ў длонь,*
*Бальшавікаў гонь-гонь-гонь!*

Пікі з цягам часу ўдасканалілі: да вастрыя мацавалі супрацьтанкавую гранату, серыйны выраб такой зброі быў наладжаны на мэблевай фабрыцы ў Слоніме. Так што ў 1939 годзе нямецкія танкі кавалерыя атакавала не з шаблямі, як пішуць, а менавіта з гэтымі ўзрыўнымі пікамі.



Уланы

Мноства такіх гранат дасталася чырвонаармейцам пры пераходзе польскай мяжы. Іх выкарысталі пад Курскам у якасці авіябомбаў. Немцам пашанцавала меней: скапіявалі ўзор, удасканалілі і атрымалі «Фаўстпатрон», значна менш дакладны па дзеянні.

## Міжваеннае

У 1922 годзе кавалерыст быў дэмабілізаваны з Войска Польскага ў званні падхаружнага. У маі таго ж года ён ажаніўся з Магдаленай з Незабытоўскіх і пасяліўся ва ўласным маёнтку Кастыкі каля Сэрвачы ў гміне Касцяневічы Вілейскага павета. Згодна з месцам пасялення быў прымацаваны да 4-га Віленскага палка занёманскіх уланаў адроджанага Войска Польскага.

Пра гаспадарчую дзейнасць памешчыка сын амаль не расказвае, мы толькі ўскосна даведваемся, што бацька займаўся конегадоўляй і звераводствам. Згаданы Міхаіл Саўчыц распавёў, што ў блізкім ад Кастыкаў Людвінове ў савецкі час існавала звераферма, дзе вырошчвалі пушных звяроў. (Там жыў брат Тадэвуша, Вінцэнт. — Г.К.) Безумоўна, узнікла ферма на базе панскай, што існавала пры палякох, а пазней і пры немцах. Гэтак жа ўтвараліся калгасы на інфраструктуры апусцелых панскіх сядзібаў.

Прадстаўнік польскай эліты захоўваў спартанскі лад жыцця. Галоўнай мэбляй у пакоі Тадэвуша-старэйшага былі козлы, на якіх ляжалі сёдлы, вісела конская вупраж і зброя: дзве шаблі, некалькі паляўнічых стрэльбаў і дзедаўская крэмнёвая аднастволка. Меўся рэвальвер «Кольт» і пісталет, які ўначы трымаўся пад падушкай.

«Бацька жыў на кані», — успамінае сын. Конна назіраў за працай на палях і ў лясах, ездзіў у гміну і ў Вілейку (33 км.). Калі жонка з дзецьмі ехалі на свята ў брычцы, ён скакаў поруч. У якасці рэзервіста і знаўцы коней памешчык быў прыняты ў павятовую Рамонтную камісію («рамонт» па-польску «прызыў».) Бо коні, як і людзі, у часы ліхалеццяў падлягалі прызыву, станам конегадоўлі належала займацца. У суседніх маёнтках жылі родныя браты, Юзаф і Вінцэнт.

2 верасня 1939 года, на другі дзень пасля нападу Вермахта на Польшчу, Тадэвуш Козел-Паклеўскі быў мабілізаваны для абароны Айчыны. Ён прымаў удзел у абароне на той час польскай Вільні ад Саветаў. Пасля на працягу двух дзён абараняў Гродна і зноў мусіў са сваім падраздзяленнем перайсці літоўскую мяжу. Атрымаў статус інтэрніраванага, здолеў уцячы з лагера і ў хуткім часе ўз'яднаўся з сям'ю, якая перабралася ў Вільню з маёнтка пад Касцяневічамі.

15 чэрвеня 1940 года «мы трапілі ў Савецкі Саюз ужо другі раз», — піша Тадэвуш-малодшы.

## Другая сусветная

Прыходу немцаў ніхто, акрамя бальшавікоў, у Вільні не баяўся: «Мы з запалам камента-

# род змагароў



На савецка-польскай мяжы пад Стоўбцамі



Памежны пераход на рыжскай мяжы



Немцы разглядаюць савецкія браневікі. Заходняя Беларусь, верасень 1939 года

валі прычыны панічных уцёкаў нашай апошняй улады і чакалі немцаў, якія павінны былі вызбавіць нас ад вывазу ў Сібір». У Сібіры Тадэвуш-старэйшы нарадзіўся, і долю бацькі-выгнанніка паўтараць не хацеў.

Бацькі неадкладна пачалі рабіць крокі для бяспекі сям'і. Яны шмат ведалі пра вываз у Казахстан палякаў, а таксама сваякоў і знаёмых з Вілейскага павету. Ехаць туды не хацелі, таму змянілі нацыянальнасць. Змена нацыянальнасці палягала ў тым, што было атрымана новае пасведчанне аб святым хросце з праваслаўнай парафіі. Пры гэтым згубілася беларуская частка прозвішча «Козел».

Такім чынам, сям'я пры акупацыі заставалася ў Вільні, а гаспадар стаў упраўляючым свайго былога маёнтка ў Кастыках. Пабачыўшы, як немцы абыходзяцца з палоннымі чырвонаармейцамі, сказаў, што яны такімі метадамі вайну не выйграюць.

Сын заўважыў, што бацька замнога кружыць па павеце і шмат з кім сустракаецца. Кантакты, як ён пазней зразумеў, мелі канспіратыўны характар. Аднойчы, везучы жонку з дачкой да сваёй сядзібы, зрабіў ад Касцяневічаў ладнага кругаля і патрапіў ажно ў Плешчаніцы. Праз мястэчка з вілейскай турмы № 22 гналі на ўсход вязняў. Відаць, немцы на сваёй мабільнай тэхніцы даганялі пешых, і ўсе вязні (800 чалавек) 24 чэрвеня 1941 года былі знішчаны. Большасць з іх — жыхары Гродзеншчыны, схопленыя пасля ўсталявання Савецкай улады.

Толькі праз 70 год сястра адважылася распавесці пра ўбачанае на месцы трагічнай падзеі. Вязніца ў Вілейцы «была страшэнная». Дзейнічала яна да 1947 года, у ёй загінулі тысячы зняволеных. У тым будынку пазней размясцілі бальніцу. У 2000 годзе капалі зямлю пад фундамент правага крыла і натрапілі на «ямы смерці». Парэшткі ахвяр эксгумавалі і перанеслі на новыя могілкі, усталявалі там каменны помнік і роўнаканцовы крыж.

Польскі памешчык і з немцамі ладзіў, і з партызанамі сустракаўся. Шкуркамі «серабрыстых лісаў» падкупляў германскіх афіцэраў і выкарыстоўваў іх у якасці кур'ераў для сувязі з сям'ёю. Меў кантакты з «камісарам Цімчуком». Тут таксама варта спыніцца.

Іван Цімчук быў камісарам у некалькіх брыгадах. На той час — у атрадзе Варанянскага, «Дзядзі Васі» (пазней — брыгада «Народныя мсціўцы»). Узначальваў Лагойскі падпольны райкам партыі, у 1944 — Першую Антыфашысцкую брыгаду. (Для тых, хто не ведае: брыгаду Гіля-Радыёнава, якая належала да СС і перайшла на бок партызанаў. — Г.К.) Змагаўся са злоўжываннямі ў партызанскіх шэрагах.

Іван Мацвеевіч прыбыў у Беларусь у 1932 годзе. З 1939 па 1941-ы ўзначальваў Вілейскую звераферму. Хутчэй за ўсё, тую самую — пад Касцяневічамі. Памешчык мог ведаць Цімчука па сваёй працы. Іншае пытанне, пры якіх абставінах яны маглі перасекчыся. Выкажу дапушчэнне, што знаёмства адбылося ў першыя дні вайны, пакуль гітлераўцы яшчэ не прыйшлі.

Мяне ўразіў факт, што камісар ужо ратаваў польскую сям'ю: «Гэта быў той чалавек, які 18 кастрычніка 1939 года замест Казахстана адправіў маю маці з дзецьмі ў Вільню». То бок Савецкая ўлада не дала загінуць прыбытковай гаспадарцы і спешна перавяла Цімчука яе дырэктарам. Так ён пазнаёміўся з пані Магдаленай, што засталася з пяццю дзецьмі і з рэальнай перспектывай на высылку.

Вярнуўшыся, Козел-Паклеўскі неўзабаве знайшоў партызанскага камісара і меў з ім нейкія перамовы. Магдалена разумела, што муж вядзе падвойнае жыццё. Заклікала да адказнасці: табе 51 год, памятай пра сям'ю! Ты і так прайшоў «паўтары сусветныя вайны»!

У лютым 1942-га бацька прыехаў да сям'і апошні раз. Пра яго арышт і смерць паведаміў дзядзька з Сэрвачы. Юзаф паспеў сысці з бацькаўшчыны і ніколі больш туды не вярнуўся, містычным чынам паўтарыўшы лёс свайго бацькі-цёзкі. Вінцэнт яшчэ раней трапіў у Казельск, а потым знайшоў смерць у Катыні.

Тадэвуша таксама папярэдзілі пра небяспеку, але ён мусіў чакаць сувязную ад партызанаў. Фатальным чынам яна спазнілася, яе апярэдзілі гестапаўцы. Так падпольшчыка арыштавалі.

Віленскае гестапа складалася з латышскіх немцаў, шэфам СД быў Грубер. Тадэвуша Паклеўскага пачалі дапытваць, у засценак вадзілі людзей на вочную стаўку. Ён усю віну браў на сябе. Высветлілася, што падпольную сетку ў Вілейскім павеце выдаў адзін арыштаваны. Немцы пацягнулі за нітачку — і выявілі іншых удзельнікаў падполля. Следства цягнулася нядоўга. У ноч з 9 на 10 ліпеня сына паўстанца расстралялі на падворку турмы. Ён быў кіраўніком падраздзялення Арміі Краёвай Вілейскага павета пад кодавай назвай «Поле». За некалькі месяцаў ён стварыў пашыраную сетку з сарака палякаў, якія засталіся пасля вынішчэння ГПУ і НКУС з 1939 па 1941 год.

## Дзеці

Усе дзеці Паклеўскіх у сацыялістычнай Польшчы атрымалі адукацыю. Жылі цяжка, бо ўдава афіцэра або зусім не мела пенсіі, або атрымлівала невялікую. Атрымаўшы ў Вільні фальшывыя паперы аб іншым месцы нараджэння, рэпатрыянты і ў Польшчы заставаліся «з фальшывай нацыянальнасцю». Па ўсёй бачнасці, перапісаліся на рускіх.

Тадэвуш-малодшы дзіцем пры вызваленні Вільні страціў вока. У 1949 годзе паступіў у Лодзінскі ўніверсітэт на факультэт гісторыі мастацтва, пазней перайшоў на старажытную гісторыю. Вучыўся ў Францыі і Бельгіі. Абараніў ступень магістра, а пасля — доктарскую. Займаўся гісторыяй сярэднявечных замкаў. Меў сям'ю. Наконт нацыянальнасці адказваў так: «Я з Вялікага Княства. Напэўна, па выхаванні і маўленні паляк, але я ведаю, што сям'я мая з каранямі беларускімі і літоўскімі».

Родныя Кастыкі Тадэвуш наведаў у 1997 годзе. За два гады да смерці выдаў кнігу мемуараў. Апошні нашчадак слаўнага роду памёр 25 верасня 2015 года.



Сацыялістычная Польшча



Скаўты ў бабруйскай крэпасці



**Міхась Літвінчык запісаў дзясяткі такіх сшыткаў прымавак. Але дзе яны цяпер — ніхто не ведае. А гэта ж наш народны скарб, скарб духоўнай культуры. Даўно яго трэба было б сабраць і выдаць асобнай кніжкай, але ж каму гэта сёння патрэбна...**

# Міхась Літвінчык: шанаваць роднае

Сяргей ЧЫГРЫН

**Жыў некалі ў Слоніме на вуліцы Багушэвіча Міхась Барысавіч Літвінчык. Ён скончыў польскую школу, пасля вучыўся ў Сянькоўшчынскай сярэдняй школе. Калі пачалася Другая сусветная вайна, пайшоў на фронт. Быў двойчы паранены, з баямі дайшоў да Кёнігсберга.**

Пасля вайны Міхась Літвінчык прыехаў у родны Слонім і да самай пенсіі адпрацаваў шафёрам. На грузавых машынах аб'ездзіў усю Беларусь. Але захапленнем яго была не толькі тэхніка — слонімец вельмі цікавіўся прыказкамі і прымаўкамі. Спачатку іх збіраў, запісваў ад людзей. А потым і сам пачаў іх складаць. Пра яго талент да прыказак і прымавак нават пісалі рэспубліканскія газеты і часопісы, а ў канцы 1980-х гадоў Міхася Літвінчыка запрасілі на Беларускае тэлебачанне ў перадачу «Роднае слова», дзе ён вельмі шчыра расказваў пра прымаўкі і прыказкі.

На вялікі жаль, такой перадачы на Беларускім тэлебачанні даўно не існуе, а яна была вельмі папулярнай тады. Рэдакцыя і аўтары перадачы атрымлівалі сотні пісем, прапаноў, водгукаў.

Міхась Літвінчык часта заходзіў да мяне ў рэдакцыю «Газеты Слонімскай», мы з ім гутарылі пра Беларусь, пра мову, пра наш багаты фальклор. І аднойчы ён пакінуў мне агульны сшытак сваіх прыказак і прымавак. «Няхай у цябе будзе адзін з маіх спісаных сшыткаў, можа калі табе прыдасца», — сказаў зямляк і паклаў на стол сшытак сваіх народных твораў. Нядаўна я гэты сшытак адшукаў у сваім хатнім архіве. Уважліва прачытаў. І мне спадабаліся прыказкі і прымаўкі Міхася Літвінчыка. Вось некаторыя з іх:

*Запісаныя думкі, як віно — яны павінны адстаяцца.*
*Не можа быць адукаваны той, хто не ведае роднае мовы.*
*Можна жыць па-братэрску, але не па-сяброўску.*
*Не трэба здзіўляцца з нас — такія былі і да нас.*
*Каб не было памяці, дык не было б і слёз.*
*І золата дурня не зробіць разумным.*
*Хто ходзіць, той можа падаць.*
*Пазяхаць — не спяваць, голасу не трэба.*
*Дурань смяецца не са смешнага, а з разумнага.*
*Самая праўдзівая мова — народная.*
*Калі добра працуеш — гаспадарку мацуеш.*
*Вучыць не толькі сябар, але і вораг.*
*Жонка дрэнна маецца, якая ўсім мужчынам падабаецца.*
*Бывае і барон ловіць варон.*
*Хлеб свежы добры для ежы.*
*Дай Бог усё умець і не старэць.*

Міхась Літвінчык запісаў дзясяткі такіх сшыткаў прымавак. Але дзе яны цяпер — ніхто не ведае. А гэта ж наш народны скарб, скарб духоўнай культуры. Даўно яго трэба было б сабраць і выдаць асобнай кніжкай, але ж каму гэта сёння патрэбна...

Хаця яшчэ 24 снежня 2004 года Беларусь далучылася да міжнароднай канвенцыі ЮНЕСКА 2003 года «Аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны». Гэтым самым Беларусь узяла абавязкі перад міжнароднай супольнасцю захоўваць і пашыраць аб'екты нематэрыяльнай культурнай спадчыны (НКС), да ліку якіх належаць і творы фальклору.

Сустракаю неяк на вуліцы ў Слоніме настаўніка-пенсіянера Мікалая Іванавіча Ракевіча. «Добра, што я цябе сустрэў, — кажа слонімец. — Хачу даць табе некалькі прыказак пра сям'ю, нявестку, свякроў. Ты раней такіх не чытаў. Я іх запісаў ад Валянціны Самусевіч, якая родам з вёскі Азярніца Слонімскага раёна. Пачытай!..» Я ўзяў ліст з прыгожым почыркам і пачаў чытаць:

*Нявестка свякрыві дзярэ да крыві.*
*Калі добрая свякроў, то вып'е кроў, калі ліхая, то косці пааб'ядае.*
*Калі зяць на дачцэ, то для цешчы, што сто долараў у руцэ, калі сын на нявесціцы, то што гаўно на трэсцы (для свякрыві).*
*Мае адно вока і тое спаць хоча.*
*Глядзіць левым вокам у правую кішэнь.*
*Бывае найгорш, калі баішся: і ліха не мінеш, і надрыжышся.*

Але найлепш ведаў фальклор, і ў прыватнасці беларускія прымаўкі і прыказкі, мой зямляк са Слонімшчыны, вядомы беларускі энцыклапедыст, бібліёграф, літаратуразнавец Янка Саламевіч. На вялікі жаль, яго ўжо няма на гэтым свеце. Сустракацца і гутарыць з ім — гэта была вялікая асалода, сапраўднае свята, нейкі своеасаблівы ўніверсітэт. Усё жыццё ён любіў лавіць яркія, гаваркія словы, фразеалагізмы — асаблівасці роднай і іншых моў.

Іван Уладзіміравіч гаварыў мне: ну скажы, у каго ты сустракаў слова «аб'ясніць»? Ён у рукапісе Янкі Купалы ў яго музеі трапіў на такі радок: «Няхай цябе аб'ясніць розум ясны». Здарова, праўда? Бацька яму некалі казаў: «Мёрзлая зямля заскалела» (стала цвёрдаю, як скала). Неяк расказаў ён мне пра аднаго жыхара яго роднай вёскі Кракоткі, які еў блінцы: «сем мазаных, сем нямазаных, сем сухама — збольшага перакусіў».

Любіў распавядаць Янка Саламевіч пра сваіх аднавяскоўцаў. Казаў, што ў яго вёсцы мовяць: «сучка маленька, нізенька, як слончык на чатырох ножках». Ці так: «ідзе нага за нагу, як назаўтра»; «е што гаварыць, ды німа чаго слухаць»; «з носа кап, ды ў рот хап»; «ужэ суп у сватэ збіраецца» (пачаў кісնуць)...

Сёння мне часта прыгадваецца мой дарагі і паважаны спадарку Янка Саламевіч. Ён мне казаў: «Не называй мяне Іван Уладзіміравіч, не трэба, кажы спадар Янка». Я так яго ў апошнія гады і клікаў.

Прымаўкі і прыказкі спадар Янка называў выслоўямі. Ён мог іх нагаварыць кучу і горбу, мех і торбу: не ўсё тое падбірай, што па вадзе плыве; не кожны хвోры, што стогне; языком бервяна не ачэшаш; біты сабака здалёк бачыць кіёк; двор, як пані сесці; харошая, хоць малюй...

Прыгадваецца мне яшчэ адна прымаўка ад спадара Янкі: «Паедзем, бабка, у чужое сяло, то будзем ведаць, што робіцца ў нашым».

Нам сёння не трэба ехаць у чужое сяло, у чужыя краіны. Нам добра дома, дзе ўсё такое блізкае нам і зразумелае. Дык давайце шанаваць роднае!



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №548

Падпісана да друку 10.08.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.